№ 28 (237) 9 ліпеня 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелак

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# Людзкае сена



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

## важнейшае за выбары

**"Дурасьць там у вас у Менску! Вось чаму ў нас няма ніякай агітацыі? Прывязуць скрыні з паперамі — і ўсе выбары. Сена трэба грэбці, буракі палоць,.. а не языкамі малоць!" Гэтак казала цётка Вера, вясковая пэнсіянэрка.**

Прамаўляючы, яна ўходжвалася: карміла куры і рознае іншае "сьвінства".

Па радыё са сьцяны цётчынай кухні казалі: вось-вось пачнуцца агітацыйныя кампаніі кандыдатаў у прэзыдэнты. "У Менску агітацыйныя кампаніі пачаліся неафіцыйна мо паўгоду таму", — запярэчыла "радзіву" я. І нарвалася на гэткі камэнтар.

Раней я адразу б пакрыўдзілася. Цяпер "палітычная" рэзкасьць вясковай кабеты выклікала толькі шчыры сьмех. Зь невялікім дамешкам прыкрасьці. Дзесьці за сьветам, у "нашым Менску", нехта расьпінаецца-пнецца, а тут народу ні ражна ня трэба. Сена! Сена — і хоць сьвету канец!

Але вёска ўжо даўно не здаецца мне абыякавай, баязьлівай і прымітыўнай.

Працяг на старонцы 5.

### Навіна
## Выбух на падпольным бровары

**Уначы з суботы на нядзелю ў лесе пад вёскай Габітацыя, што ля Будслава, выбухнуў падпольны бровар.** Забіла дзесяцікласьніка, які на тым новым, яшчэ не правераным бровары працаваў уначы, падносіў дровы. Цела аднесла на 20 мэтраў. А гэты бровар нават не ягоны, хлопец наняўся на заробкі.

У Будславе кажуць, што ніводзін фэст не абыходзіцца без ахвяры, ну, во й здарылася.

**Сяргей Мікулевіч, Будслаў**

# БЕЛАРУСКІ БЕРАЗОЎСКІ

## Пераход Ціцянкова ў апазыцыю можа аказацца нявыгадным для яе

**У лукашэнкаўскім атачэньні – чарговы скандал. Іван Ціцянкоў, чалавек з самага блізкага кола А.Лукашэнкі, былы кіраўнік справаў прэзыдэнта, даў інтэрвію журналісту Анатолю Гуляеву, у якім, фактычна, зьвінаваціў свайго былога шэфа ў злоўжываньні службовым становішчам, бескантрольным выкарыстаньні дзяржаўных сродкаў, некампэтэнтнасьці, халатным выкананьні службовых абавязкаў. Гучыць у Ціцянкова і тэма зьнікненьня палітычных праціўнікаў Лукашэнкі. Інтэрвію зьявілася ў Інтэрнэце, а ў панядзелак мае быць у продажы затрыманы суботні выпуск газэты *"День"* зь ім.**



IREX-PROMEDIA

У ім Іван Ціцянкоў ня каецца ў сваіх грахах, але шчодра паліваае Лукашэнку брудам. Паводле Ціцянкова, ягоны былы начальнік – палітычны апартуніст (*"У палітычных перакананьнях ён быў вельмі неразборлівы. Спачатку рвануўся да БНФ, разам зь імі ўносіў у Авальную залю толькі што зацьверджаны тады бел-чырвона-белы сьцяг, вельмі сябраваў зь Зянонам Пазьняком, езьдзіў разам на мітынгі.*

Працяг на старонцы 3.

# Васіль Лявонаў: Каб сышоў дыктатар

## *Сёньня-заўтра адзіны кандыдат мае быць названы*

Былы міністар сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў быў небясьпечным патэнцыйным канкурэнтам А.Лукашэнкі, пакуль ня страціў магчымасьці балятавацца з-за "судзімасьці". Цяпер Васіль Лявонаў узначаліў згуртаваньне "За новую Беларусь", што мае стаць перадвыбарным штабам для адзінага антылукашэнкаўскага кандыдата. Ён абяцаў, што да 15 ліпеня дэмакратычная "пяцёрка" вызначыцца з адзіным кандыдатам. Аднак зрабіць гэта нялёгка: адзін кандыдат мае найменшы нэгатыўны рэйтынг, другі — найбольшую вядомасьць, трэці — найбольшую арганізацыйную базу для вядзеньня кампаніі. Васіль Лявонаў адказаў на пытаньні "НН".



IREX-PROMEDIA

Старонка 2.

### тэма нумару

# Паэт-сымулянт

## *Янка Лучына. 1851—2001*

Янка Лучына — самы менскі паэт у гісторыі беларускай літаратуры, гарадзкі культурны герой, вядомы кожнаму тагачаснаму менчуку і на вуліцах места і ў менскім тэатры, дзе ад імя ўдзячнай публікі па-беларуску вітаў заежджыя трупы. Акурат на ганку тэатру яго разьбіў паралюш. Хочацца дадаць: паводле паданьня. Бо гэты паралюш выглядае зручным спосабам "закасіць" ад разьмеркаваньня на Каўказ. Мяркуйце самі: пасьля Пецярбурскага інстытуту маладога чалавека адпраўляюць у далёкі Тыфліс, які сытуацыйна нічым не адрозьніваўся ад сёньняшняга Гудэрмесу, — працаваць на чыгункавых складах. Праз два гады Лучына завітвае ў Менск, і тут яго разьбівае паралюш. Пра тое, што гэта магло быць сымуляцыяй, сьведчыць і такі факт: спаралюшаваны Лучына ня кідае сваіх улюбёных заняткаў і рэгулярна езьдзіць у Мархачоўшчыну лавіць рыбу ды паляваць на ласёў зь медзьвядзямі.



У Менску чалавек цёгаецца на мыліцах на нялюбую працу. А як выпадаюць вольныя дні — выпраўляецца на вёску. Тут мыліцы адкідаюцца ўбок, Лучына распраўляе плечы, купаецца ў Нёмане, выходзіць на доўгія паляваньні ў навакольныя лясы, добра харчуецца. Навокал зычлівыя паспалітыя людзі, а можа быць, і тая прыгожая сялянка... Пасьля чалавек ізноў вяртаецца ў свой футарал — устае на мыліцы, пачапляе акуляры і едзе ў Менск.

Менск для яго — футарал. А Мархачоўшчына — самое жыцьцё, сьвятая Літва і сьвятая Беларусь, якая натхняе яго на творчасьць.

Працяг на старонках 6—7.

# Васіль Лявонаў: Каб сышоў дыктатар

Працяг са старонкі 1.

**Васіль Лявонаў:** Я не губляю надзеі, што «пяцёрка» назаве адзінага кандыдата сама. Пакуль яны не расьпісаліся ў сваёй няздольнасьці назваць яго, я проста ня маю права камэнтаваць гэтую тэму. Сёньня-заўтра мы мусім атрымаць таго адзінага, якога яны назавуць. Прынамсі, яны казалі, што падпарадкуюць свае асабістыя амбіцыі інтарэсам грамадзтва, краіны, і гэта прагучала яшчэ задоўга да таго, як яны амаль усе апынуліся на канале ОРТ, дзе таксама пацьвердзілі, што вылучаць адзінага кандыдата. Я разьлічваю, што яны — людзі слова, інакш што яны за кандыдаты?

**"НН": Ці можа так здарыцца, што незалежнаму беларускаму грамадзтву прыйдзецца падтрымаць некага не зь «пяцёркі», калі гэтыя пяць ня змогуць дамовіцца?**

**В.Л.:** Я ня думаю, каб магло аказацца так, што яны ўсе адмовяцца ад свайго слова. Мо хіба нехта не падпарадкуецца рашэньню... Такі варыянт, пра які вы гаворыце, ёсьць. Але я хацеў бы, каб грамадзтву не прыйшлося прыбягаць да нейкага асаблівага ціску на кандыдатаў, каб змусіць іх да вылучэньня адзінага. Занадта ўсё відавочна: ніводзін зь іх, пры ўсёй павазе да кожнага, аднаасобна ў другі тур ня выйдзе. Толькі аб'яднанага яны разам могуць вывесьці. Таму нікому зь іх няма сэнсу весьці шалёную гульню. Дзейнічаць паводле прынцыпу «або ўсё, або нічога» ў гэтым выпадку непрыгожа. Трэба быць рэалістам.

**"НН": Як Вы ацэньваеце ўдзел Зянона Пазьняка ў кампаніі?**

**В.Л.:** Удзел Пазьняка ў выбарах можа прынесьці карысьць толькі Лукашэнку. У Зянона Станіслававіча — дарэчы, я глыбока паважаю гэтага чалавека за тое, што ён быў першым, хто ўзьняў сьцяг і пачаў нацыянальнае адраджэньне, — было многа памылак. І зараз ён можа зрабіць адну з самых фатальных. Яго́ны электарат — 5—10% — гэта вельмі актыўны электарат.

Ён мусіць узяць удзел у кампаніі, сабраць сваіх людзей, але зрабіць правільны выбар. Я прагнаваю верыць у тое, што ў яго хопіць разуменьня і арыенціроўкі, які выбар зрабіць і калі.

Пра сябе я магу сказаць, што я сам даў слова не прэтэндаваць ні на якія пасады. Мне патрэбна адно: каб сышоў дыктатар. Я сваё слова заўжды трымаў. Я яго вытрымаю і сёньня. Ніхто не папракне мяне, што я змагаюся за ўладу. Я змагаюся за будучыню Беларусі. Працу я сабе знайду і буду прыносіць карысьць Беларусі і без чыноўнічай пасады.

Я ўдзельнічаю ў кампаніі, каб сышоў дыктатар, і нічога не баюся. Расстрэл фізычны мяне не палохае. Таго, хто прайшоў маральны расстрэл, расстрэл фізычны ўжо не палохае.

**"НН": У Захаду ёсьць свае сымпатыі, і яны, здаецца, не супадаюць з сымпатыямі беларускага грамадзтва. Наколькі важна было б для нас цяпер пры выбары адзінага кандыдата пайсьці насуперак сымпатыям Захаду?**

**В.Л.:** Так, на жаль. Я пэўны ў адным і дзейнічаю так і буду дзейнічаць да канца: нічые сымпатыі ня будуць прыярытэтнымі, апроч перамогі над рэжымам. Выбірэм таго кандыдата, які будзе мець большыя шанцы на перамогу над рэжымам. Крайне правы, крайне левы, цэнтрыст — ня мае значэньня. Узважым, у каго болей шанцаў. Няважна, як да яго ставяцца ў Вашынгтоне, Крамлі. Урэшце лёс Беларусі мусяць вырашаць беларусы. Нармальнае разьвіцьцё эканомікі і дэмакратызацыя Беларусі нікому не пагражаюць — ні Маскве, ні Варшаве.

**"НН": Наконт Масквы. Ці не здаецца Вам, што кандыдаты-антылукашысты занадта нэрвова ставяцца да Масквы? Наракаць на Маскву за тое, што яна па-ранейшаму ставіць на Лукашэнку, гэта ўсё адно што наракаць на надвор'е.**

**В.Л.:** Масква мае вялізны ўплыў і аказвае калясальную падтрымку цяперашняму рэжыму. Гэта неаспрэчны факт. І я не магу зразумець, навошта чыноўнікі ў Маскве гэта робяць. Не расейскі народ аналізуе і падтрымлівае дыктатара, але чыноўнікі расейскага МЗС. Але ж яны аналізуюць і бачаць...

Ды кіруюцца прынцыпам, які выказаў, дзякуй Богу, ужо былы галоўны рэдактар *«Независимой газеты»*: «Сукін сын, але наш сукін сын». Ім нават сукін сын падыходзіць...

**"НН": Баяцца, што без Лукашэнкі СНД разваліцца.**

**В.Л.:** Гэта стэрэатыпы мысьленьня. Зь іншага боку, Лукашэнка ўмела грае на гэтых настроях. А па-трэцяе, гэта адбываецца з-за няправільных паводзінаў нашай апазыцыі.

**"НН": Ваш удзел у кампаніі стаў вялізным козырам антылукашысцкага блёку. Хто наступны далучыцца да яго? Вайцянкоў? Заламай? Гімнасты Іванкоў і Корбут?**

**В.Л.:** Зь некаторымі я гаварыў. Не гатовыя. Але будуць іншыя.

**"НН": Чаму дэмакратычныя кандыдаты так мала працуюць з дырэктарамі і буйнымі прадпрымальнікамі, чаму не адчуваюць іхных інтарэсаў? Чаму няма кантакту зь імі?**

**В.Л.:** Я бачу найперш баязьлівасьць дырэктараў і бізнэсмэнаў. Тое я назіраў яшчэ ў 1994 г. на выбарах. Яны казалі і тады, як цяпер: няважна, хто прыйдзе, я ўсё адно буду жыць. Адзін з такіх першы трапіў у турму пасьля прыходу Лукашэнкі. Гэта былы дырэктар «Магатэксу» Сямёнаў. Пасадзілі за тое, што атрымаў лішнія камандзіровачныя, калі езьдзіў у Вільню — відавочна сфабрыкавана.

Баяцца яны і лёсу Красоўскага. Проста баяцца. Некаторыя ад страху нават ішлі на парушэньне закону. Перад выбарамі я назаву іхныя прозьвішчы. Ведаю я і такіх работнікаў вэртыкалі, што павадзяцца напросту злачынна — парушаюць закон. Гэта таксама мае месца, і не таму, што нехта ня хоча зь імі працаваць. Баязьлівасьць! Вось што нам трэ будзе перамагчы — праўду кажа Крыжаноўскі.

Многія ў гарадах лёгка сьпісваюць усё на «калхозьнікаў». Укладаюць у гэтае слова зьняважлівы зьмест. Забываючыся, што «калхозьнік» — гэта ня выбар, гэта доля. Гэта прыгонны XX ст. Калгасы — гэта адроджаны ў Савецкім Саюзе прыгон. І вось яны кажуць: «За калхозьнікаў мы больш галасаваць ня будзем». Дык вось, зварот руху «За новую Беларусь» падпісаў старшыня калгасу «Дрыбінскі», і дырэктар аднаго саўгасу падпісаў, а дырэктар заводу не падпісаў ніводзін, а прапаноўвалі мінімум дваццаці.

**"НН": Вы робіце ўсё, каб у верасьні адбыліся зьмены. Але гарантыі даць ня можа ніхто...**

**В.Л.:** Асабліва пры такой падтрымцы, якую аказваюць Лукашэнку крамлёўскія чыноўнікі!

**"НН": Такая справа, як вызваленьне краіны, займае іншы раз дзесяцігодзьдзі. Калі Лукашэнка застанецца, што рабіць тады, з чаго пачынаць?**

**В.Л.:** Пачынаць ня трэба, трэба працягваць. Проста працягваць. Будзем працягваць.



IREX-PROMEDIA

# Сьвята на зямлі

**Традыцыйна Купальле адзначаюць у ноч з 23 на 24 чэрвеня. З 6 на 7 ліпеня, калі па ўсёй Беларусі на купальскіх вогнішчах замест драўляных колаў паляць шыны, для праваслаўных беларусаў — ноч перад сьвятам Івана Купалы, інакш — Хрысьціцеля.**

Адкінуўшы ўмоўнасьці, у ноч з 6 на 7 ліпеня на беразе Воўчкавіцкага вадасховішча на рацэ Пціч супрацоўнікі Музэю народнага дойлідзтва на чале з колішняю салісткаю гурту "Ліцьвіны" фальклярысткаю Наталяю Матыліцкаю зладзілі Купальле. Сьвята там адбываецца ня першага году й здаўна стала традыцыяй. Нечаканасьцю для ўсіх быў прыезд Сямёна Домаша. Н.Матыліцкая прызналася, што адпачатку візыту С.Домаша ня мела быць. На гэта патэнцыйны прэзыдэнт наважыўся ў апошні момант.

6 ліпеня С.Домаш быў на Гомельшчыне, дзе сустракаўся з выбарцамі. Дарогаю ў Менск у ягонай машыне парваўся рэмень на руху, і давялося тэрмінова шукаць дапамогі. Недзе пад Бабруйскам патэнцыйнаму прэзыдэнту прыйшлося выйсьці на шашу й "галасаваць". Спыніліся — і першаю ж машынаю Домашаў аўтамабіль дацягнулі да Менску.

Дырэктар Музэю народнага дойлідзтва Георгі Ткацэвіч гасьцінна сустрэў прэтэндэнта на пасаду прэзыдэнта. Яны нават пасьпелі абмеркаваць нейкія праблемы.

С.Домаш нароўні з усімі хадзіў у карагодзе, танчыў і нават скакаў цераз вогнішча. Ад апошняга С.Домаша ўпрошвалі адмовіцца ягоныя калегі, аднак кандыдат сказаў ім: "Чаму ж не?! Хіба я не магу?!" За С.Домашам цераз вогнішча паскакалі ўсе іншыя — і малыя, і старыя. Адмыслова вызначыўся ў скаканьні Г.Ткацэвіч.

**Віктар Мухін**

# Шчукін і турэмшчыкі



IREX-PROMEDIA

Праваабаронца Валеры Шчукін, якога пасадзілі на тры месяцы за непадпарадкаваньне міліцыі, перавезены са сьледчага ізалятара ў Менску ў нядобрай славы сьледчы ізалятар Жодзіна (г.зв. "Чорны бусел"). Менавіта ў "Буслы" ў 1998 г. па-зьверску зьбівалі арыштаваных Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Лабковіча. Гісторыкі ўжо цяпер параўноўваць яго зь менскай "Амэрыканкай" ці баранавіцкім "Крывавым колам" сталінскага часу за жорсткасьць катаваньня зьняволеных.

Шчукін адбывае адміністрацыйны тэрмін, а таму перавод яго ў ізалятар суворага рэжыму беспрэцэдэнтны. Магчыма, ён быў выкліканы тым, што Шчукін і за кратамі не спыняў антыўрадавай агітацыі. Беларуская праваабарончыя арганізацыі пакуль не абвесьцілі, ці законны такі перавод увогуле.

Пастанова аб арышце 60-гадовага Валер'я Шчукіна, рэкардсмэна па адседках, тэрмінам яшчэ на 3 месяцы была вынесеная 15 сакавіка, а ўступіла ў сілу 12 чэрвеня. Гэта было зроблена, каб ізаляваць актыўнага праваабаронцу на час прэзыдэнцкай кампаніі.

Колішняга марскога афіцэра складана запалохаць. Затое можна зьняважыць. Кіраўніцтва турмы знайшло брыдкі спосаб: сп.Валеру гвалтам пагалілі бараду. Чалавека пазбавілі ягонага вобразу.

Шчукін адкладся ў памяці людзей яшчэ з часоў Вярхоўнага Савету Шарэцкага вышываны кашуляй і вялізарнай барадой. Па барадзе пазнавалі яго ў тралейбусах і на дэманстрацыях. Барада Шчукіна стала такім жа нязьменным ягоным атрыбутам, як вусы Сальвадора Далі ці чорныя акуляры Энца Фэрары. Барады больш няма. Барада была выбарам Шчукіна, і яна не забываецца.

Адміністрацыя Жодзінскай турмы таксама свой выбар да далейшай дэградацыі зрабіла. І такое не забываецца.

**Эдвард Людовіч**

## Пацярпелыя за Беларусь

Праваабаронцы з арганізацыі "Прававая дапамога насельніцтву" Ігар Гайшун, Алег Стрыжонак, Алег Маркоўскі былі затрыманы ля будынку беларускага КДБ падчас пікету. У Горадні затрымлівалі Андрэя Мялешку, Вадзіма Сала, Віктара Бабкіна, Ілону Паўленку, Алега Заблоцкага. У Віцебску 6 ліпеня затрымалі сяброў Маладога Фронту Віктара Шляхціна, Яніса Чучмана, Тацьцяну Чабатарову, Андрэя Капорыкава і Ігара Землякова. 5 ліпеня ў Менску затрымалі "зуброўцаў" Андрэя Кавалевіча і Ільлю Жыхарава.

## Хроніка кампаніі

### Ганчарык, Домаш і Пазьняк

**Паводле зьвестак, якія мы атрымалі ў рэгіёнах, колькасьць галасоў, сабраных за Ганчарыка на ўчора, можна ацаніць у 130 тысячаў, за Домаша — 125 тыс.**

Можна лічыць, што кампанія выйшла на фінішную прамую.

На гэтым тыдні, відаць, будзе пастаўлены і 100-тысячны подпіс за Зянона Пазьняка.

Такім чынам, можна чакаць, што менавіта Ганчарык і Домаш маюць найбольш шанцаў стаць кандыдатамі ад дэмакратычнае "пяцёркі", а Пазьняк вернецца ў Беларусь пасьля рэгістрацыі.

З кандыдатаў ад іншых палітычных сілаў 100 тысяч подпісаў, па ўсёй відавочнасьці, набіраюць А.Лукашэнка, Л.Сініцын і С.Гайдукевіч.

**Б.Т.**

## Навіны за тыдзень

###Ператрус у ЗБС

**Сьледчыя фінансавай паліцыі пазаўчора абшукалі ўсё на сядзібе Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў** і забралі "для вывучэньня" сыстэмныя блёкі чатырох кампутараў. Алесь Міхалевіч, уласьнік кватэры, на якой сядзела ЗБС, мяркуе, што за вобшукам стаяла КДБ. Падобных акцыяў чакаюць і ў іншых незалежных асяродках. Аб гэтым папярэджваў і сам Алесь Міхалевіч у пазамінулым нумары "НН".

### Амністыя Лапцеву

**А.Лукашэнка амніставаў сп.Лапцева, беспрацоўнага, які шпурнуў у яго памідорам падчас "гонкі на лыжах".** Суд пасадзіў Лапцева на тыдзень "за дробнае хуліганства".

### Севярынец у КДБ

**У КДБ выклікалі лідэра Маладога Фронту Паўла Севярынца.** Дапытвалі яго быццам па справе аб выбухах на тэрыторыі расейскага пасольства. А ён пра гэта нічога й ня ведае.

**Б.Т.**

# БЕЛАРУСКІ БЕРАЗОЎСКІ

*Крытыка з боку чалавека, прозьвішча якога для мільёнаў стала сынонімам хцівасьці, прадажнасьці і антынароднасьці, у масавай сьвядомасьці толькі дадае ачкоў Лукашэнку.*

Працяг са старонкі 1.

*Потым перайшоў у іншую фракцыю, потым "прымазаўся" да камуністаў..."*). Лукашэнка таксама паўстае гультаём (*"...ён працаваў у дзень ня больш за тры-чатыры гадзіны. Ён прыяжджае — насамперш выслухоўвае службу бясьпекі, потым сустракаецца з прэсай. Выклікае некага са справаздачай для птушачкі — усё, на гэтым ягоная работа скончаецца, недзе а другой. Потым у Драздзы... А там тэніс, хакей... Як можна працаваць, калі церазь дзень хакей а пятай і церазь дзень — тэніс?"*), злачынцам (*"дачыненьне кіраўніцтва Беларусі да іх* [Захаранкі, Завадскага ды інш.] *зьнікненьня відавочнае"*), псыхічна цяжкім чалавекам (*"...фантастычная падазронасьць і недаверлівасьць Лукашэнкі..."*; *"...няма такога чалавека* [якому б Лукашэнка давяраў]. *Ён ніколі не давяраў, напрыклад, Канаплёву. З Шэйманам яны проста павязаныя супольнымі злачынствамі, грашыма..."*).

Інтэрвію гучнае. Ёсьць у ім цікавыя сьведчаньні, ёсьць і свае супярэчнасьці.

## ЯК ФІНАНСАВАЛАСЯ КАМПАНІЯ ЛУКАШЭНКІ

*"У даклад па барацьбе з карупцыяй ён набраў неправерэных фактаў. Юра Малумаў, Міхаіл Сазонаў і цяперашні нам. генэральнага пракурора Міхаіл Сьнігір — усе тады казалі, папярэджвалі: факты не правераныя, выкарыстоўваць іх нельга. Але Лукашэнка іх неадкладна абнародаваў — яму не патрэбная была аб'ектыўнасьць, яму патрэбны быў імідж"*. Але нягледзячы на гэта Ціцянкоў дапамог Лукашэнку абрацца ў прэзыдэнты.

*"...фінансаваньне* [выбараў 1994 г.] *было мізэрнае. ...Фінансы сапраўды ішлі ў тым ліку праз мяне — сума склала на ўсё пра ўсё каля 1000 даляраў. Той жа Лагвінец дапамагаў, яшчэ пара мужыкоў..."* – *"Сяргей Пракаповіч з "Руст-інвэсту" даваў транспарт..."*, — падказвае журналіст. — *"Так. А нехта грошы даваў на паліва, на сутачныя..."*, — сьведчыць Ціцянкоў.

Усё настолькі проста, што выклікае недавер. Жартачкі — тысяча даляраў на такую краіну! *"Сваю думку* [Лукашэнка] *фармуе на аснове думак аднаго-двух чалавек. Са Шклова яму нехта патэлефанаваў, нешта сказаў... Прыкладам, Валодзя Маліноўскі, стары таварыш і настаўнік, які ў сакратара парткама калгасу імя Леніна Лукашэнкі быў старшынём... І гэтая думка ўжо робіцца дзяржаўнай палітыкай"*. Лукашэнка паўстае з гэтых словаў сапраўды народным палітыкам.

## ІВАН-НЯПОМНІК

*"Вакол мяне... было некалькі сур'ёзных прадпрымальнікаў, якія, не парушаючы законаў, многа рабілі для Рэспублікі... Гэта... Віктар Лагвінец, іншых называць не хачу, бо... усе гэтыя людзі ўжо вылічаныя* [просчитаны – у арыгінале], *некага зруйнавалі, некага давялі да інфаркту... І калі б з прадпрымальнікамі Беларусі не абыходзіліся такімі спосабамі, яны прынясьлі б такі прыбытак, што нікому й ня сьнілася! А так у нас адсоткаў 70, калі ня 80, прадпрымальнікаў зьехалі"*. Карацей, каровы можна ня толькі рэзаць, але й даіць. Ды толькі многія прадпрымальнікі якраз і наракалі перад ад'ездам за мяжу на ціск з боку структураў Ціцянкова, нездаровую канкурэнцыю або простае прыўлашчваньне дзяржаўнай маёмасьці.

*"Што й казаць — у першыя гады маёй працы замежныя інвэстары, што называецца, у чарзе сталі — хацелі ўкладаць грошы ў Беларусь. У яе прамысловасьць, сельскую гаспадарку..."*. Перабольшаньне, якое павялічвае недавер да словаў.

*"...за мінулыя 7 год Беларусь ня толькі не прасунулася да дэмакратыі, а больш за тое — у Беларусі паўтараецца 37-ы год!"* Прыйшло разуменьне?

*"...татальны характар набыло праслухоўваньне тэлефонаў грамадзян. Не магу сказаць дакладна, якую суму — здаецца, каля 20 мільёнаў даляраў — выдаткавалі апошнім часам на спэцыяльнае абсталяваньне, якое дае магчымасьць пры "праслушцы" адрозьніваць грамадзянаў па голасе... А асноўныя кіраўнічыя кадры праслухоўваюцца пагалоўна! Усе!"* Хто выдаткаваў? Па якім пункце бюджэту? Хто ў такім разе зацьвердзіў? Ці гэта нейкі новы фаварыт-лагвінец ахвяраваў?

## ЛАГВІНЕЦ ЯК БРАТ-2

*"Лагвінец для мяне быў і застаўся як брат — я зьведаў сапраўдны шок* [калі яго арыштавалі]. *Ён за пяць гадоў маёй работы да мільёна даляраў прынёс ва ўласнасьць дзяржавы"*. Арышт Лагвінца нібыта і быў тым трывожным званочкам, які прымусіў Ціцянкова заварушыцца. Ціцянкоў вярнуўся з камандзіроўкі ў Нямеччыну. (Цікава было б, каб нямецкія журналісты выявілі нямецкія сувязі беларускай вярхушкі – да каго, куды езьдзяць у Нямеччыну Ціцянкоў, Латыпаў ды іншыя, чым займаўся падчас стажыроўкі там старэйшы сын Лукашэнкі, зь якімі коламі яны зьвязаныя. Упэўнены, адкрыліся б многія цікавыя рэчы.) І *"...адразу хацеў звольніцца. Пайшоў да прэзыдэнта, ён пачаў на мяне крычаць. Потым я шчэ пару разоў узьнімаў гэтую тэму, і ён аднойчы заявіў мне: ён сядзіць у турме замест цябе!"*

Большасьць беларусаў, відаць, далучылася б да такога меркаваньня.

І вось 3 сьнежня выйшаў указ пра звальненьне: *"...за неаднаразовае невыкананьне ўказаньняў прэзыдэнта кіраўніку справаў Ціцянкову аб'явіць поўную службовую неадпаведнасьць"*. — *"Такой юрыдычнай фармулёўкі не існуе ўвогуле, гэта незаконна"*, — наракае Ціцянкоў, які ў 1995 г. на хвалі жаданьня зрабіць з Лукашэнкі прэзыдэнта Расеі парваў на шматкі законны дзяржаўны бел-чырвона-белы сьцяг.



Ціцянкову яшчэ ўдалося *"цераз доктарку прэзыдэнта Ірыну Сьцяпанаўну"* дамовіцца аб сустрэчы з Лукашэнкам (заўважце, зь якой павагай ён яе называе; відаць, гэта адна з самых уплывовых асобаў краіны; і наколькі ж падзаконна функцыянуе лукашэнкаўская сыстэма, калі на сустрэчу з прэзыдэнтам трэба дамаўляцца не праз сакратарыят ці адміністрацыю, а цераз доктарку!). На спатканьні ён папрасіў у Лукашэнкі дазволу на ад'езд у Маскву, на працу ў "Ітэру". *"Я знаю, Иван, что ты порядочный человек... Езжай"*, – такімі словамі выправіў яго Лукашэнка.

А за некалькі радкоў Ціцянкоў пры гэтым называе сябе *"практычна адзіным, хто пайшоў, грукнуўшы дзьвярыма"*.

*"Ведаеце, усе гады маёй працы ў якасьці кіраўніка справаў мяне правяралі 5—7 разоў у месяц. І калі была б хоць найменшая зачэпка — ніхто б ня выпусьціў мяне зь Беларусі"*. Дык што, Беларусь — краіна законнасьці? І нарэшце Ціцянкоў прынагодна ўмацоўвае настрой няўпэўненасьці і страху перад выбарамі, заўжды выгадны ўладам: *"А ёсьць надзея на тое, што выбары ня будуць падтасаваныя?* — пытаецца журналіст. — *Магу сказаць цьвёрда, што Лукашэнка проста так улады не аддасьць"*. Адкрыў Амэрыку! Як і тое, што ён, высокі кіраўнік падчас рэфэрэндуму 1996 г., *"ня можа сказаць, што фальсыфікацыі тады не было"*. А хто можа сказаць адваротнае?

## РУКАПІС ЦІЦЯНКОВА

Ёсьць адна дэталь у інтэрвію, якая прымушае засумнявацца ў тым, што гутарка сапраўды адбылася *"ў адным утульным расейскім горадку"*, як гаворыцца ва ўступе. *"Магу ўпэўнена сказаць, што са жніўня 1999 г. гэтыя службы* [ахоўы прэзыдэнта] *вырасьлі прыкладна ў 200 разоў. Сягоньня ў яго ахове больш за 2000 чалавек"*. Фраза яўна ня мае сэнсу – не магла ў жніўні 1999 г. ахова Лукашэнкі складацца з 10 чалавек, калі ўжо ў 1996 г. фігуравала лічба 360 ахоўнікаў. Сэнс да фразы вяртаецца, калі замест 1999 г. мы ставім 1994 г. Тады, у першыя дні прэзыдэнцкай Рэспублікі, служба аховы сапраўды магла абмяжоўвацца 10 чалавекамі. Як такая памылка магла трапіць? Напісаныя ад рукі лічбы 4 і 9 падобныя, іх лёгка пераблытаць. Аднак, калі адказы на пытаньні інтэрвію былі перададзеныя сп.Гуляеву ў рукапісе, дык якая гарантыя, што ён быў напісаны рукою самога "Вані", а, напрыклад, не таго чалавека, які піша інтэрвію яшчэ аднаго "новапрасьветленага" – сп.Сініцына?

Цікава, што І.Ціцянкоў даў інтэрвію блізкай да М.Чыгіра газэце *"День"*, тады як першая гутарка зь ім зьявілася ў "Беларускім Часе" прафсаюзаў У.Ганчарыка, а жонка І.Ціцянкова пераслала ліст з папрокамі Лукашэнку ў *"Белорусскую Деловую Газету"*. Старыя стаўпы апазыцыйнай прэсы – "Народная Воля" і "Наша Свабода" абыдзеныя ўвагай. Гэта паказчык новае сытуацыі на мэдыйным рынку Беларусі.

## ПРАЦЯГ БУДЗЕ?

Урэшце, чаму Ціцянкоў не зрабіў усіх цяперашніх прызнаньняў адразу ў інтэрвію "Беларускаму Часу"? Няўжо толькі таму, што раней ён спадзяваўся на прымірэньне з Лукашэнкам, а нядаўняя нэгатыўная згадка пра яго на БТ гэтак дапякла?

Застаецца без адказу вялікае пытаньне: а ці не прыдуманая гэтая валтузьня з выштурхоўваньнем Ціцянкова ў апазыцыю ў тым самым цэнтры, дзе быў выраблены тузін падстаўных кандыдатаў, выбуховае прыстасаваньне для расейскай амбасады і ўсімі даўно забытая куля для лёзьненскага "Мэрсэдэсу"? Чаму б, дарэчы, Ціцянкову не адкрыць сакрэт тае кулі? Здаецца, ён ехаў у той самай машыне. Ціцянкоў на гэтае пытаньне адказаў ухіліста. Хіба што трымае матэрыял для наступнага інтэрвію.

Ня ўсё адразу? Шантажуе Лукашэнку?

З улікам чутак, што Ціцянкоў перабывае ў Італіі або папрасіў палітычнага прытулку ў Нямеччыне, што Лукашэнка пагражаў сям'і Ціцянкова, гэтага нельга выключаць: кампанія прыцягненьня ўвагі да былога "заггаспа" ідзе даўно і арганізаваная прафэсійна. Дык працяг напрошваецца. Але ўсё адно ў такім кантэксьце недагаворак словы Ціцянкова *"я нічога не баюся, мне няма чаго хаваць. Адзінае, чаго хачу — каб у Беларусі прайшлі дэмакратычныя выбары. Народ мусіць спакойна разабрацца й выбраць чалавека, які сапраўды прынясе карысьць"* гучаць камічна.

Дадатковую інтрыгу "выплыцьцю" Ціцянкова надае той факт, што і Ціцянкоў, і журналіст Гуляеў – кадры магілёўскія, з вотчыны Васіля Лявонава, і што кіраўнік руху "За новую Беларусь" у сваіх інтэрвію прэсе згадваў І.Ціцянкова не без надзеі.

## НІЯКІХ ФАКТАЎ, МНОГА ШУМУ

У цэлым інтэрвію пакідае дваістае ўражаньне. Ніякіх фактаў, дакумэнтаў няма, новых зьвестак пра зьнікненьне людзей таксама. Што грошы ад продажу зброі Лукашэнка накіроўваў у спэцыяльны фонд, дык у гэтым ён і сам прызнаваўся. І хоць гэта падпадае пад Крымінальны кодэкс, масавая сьвядомасьць, прывучаная да падвойнай бухгальтэрыі, ня лічыць гэтага злачынствам. Прапаганда прышчапіла думку, што ўсе гэтыя сродкі ідуць выключна на падтрымку таленавітых дзетак і вэтэранаў.

Адно нечаканае — што зброя прадавалася ў тым ліку ў Ірак, і, ня выключана, за наяўныя даляры, што парушае эмбарга ААН і супярэчыць міжнароднаму праву. Наколькі гэта праўда, сказаць цяжка. Якім шляхам беларуская зброя магла трапляць у Ірак, калі гэтую краіну атачаюць амэрыканскія ўзброеныя сілы, а авіярэйсаў туды да апошняга часу не ажыцьцяўлялася?

Інтэрвію ўрэшце друкуе "Беларускі Дом Друку". Хоць Лукашэнка і меншую крамолу забараняў...

Рыторыкі ў Ціцянкова многа (*"Лукашэнка адкінуў краіну на 15—20 гадоў назад"*), але рыторыцы даўно ніхто ня верыць. Пагатоў, калі яна гучыць з вуснаў чалавека, прозьвішча якога для мільёнаў стала сынонімам хцівасьці, прадажнасьці і антынароднасьці. І прытым, што гэты чалавек ня каецца.

У масавай сьвядомасьці ціцянкоўскія абвінавачаньні толькі дадаюць ачкоў Лукашэнку. Так, як расейская масавая сьвядомасьць канчаткова палюбіла Пуціна менавіта за тое, што яго ня любяць Беразоўскі з Гусінскім, а ўкраінская — Кучму — за Лазарэнку зь Цімашэнкай.

У любым разе, для разумных людзей выбарчая кампанія агаляе ўсё новыя факты пра жыцьцё і норавы лукашэнкаўскай "эліты". Карціны адкрываюцца самыя паскудныя. І пры знаёмстве з інтэрвію адразу згадваецца пра маральную палітыку як абавязковы прынцып апазыцыйнае дзейнасьці. Не на падтрымцы такіх "ціцянковых" беларуская апазыцыя можа дасягнуць рэальнай перамогі. Бо чым больш народ думае пра Ціцянкова, тым менш ён думае пра Быкава.

**Барыс Тумар**

### АНАТОЛЬ ГУЛЯЕЎ



**адзін з самых аўтарытэтных журналістаў Беларусі. Былы ўласны карэспандэнт газэты "Сельская жизнь" у Беларусі. Віцэ-прэзыдэнт Беларускай Асацыяцыі Журналістаў.**

Сам Анатоль Гуляеў выключае магчымасьць, каб гэтае інтэрвію Ціцянкова магло быць "падстаўным". "Рэчы, якія паведамляе Ціцянкоў, укладваюцца ў агульную мазаічную карціну, нявыгадную Лукашэнку", — лічыць А.Гуляеў.

На пытаньне, ці можа Ціцянкоў аказацца беларускім Беразоўскім, гэткай зьненавіднай народу постацьцю, якая ўвасабляе злыбеды капіталізму і пераймае на сябе адказнасьць за мінулыя злоўжываньні і раскраданьне краіны, Анатоль Гуляеў адказаў гэтак: "Я ніколі ня чуў, каб Ціцянкова называлі беларускім Беразоўскім, бо ці ёсьць для гэтага падставы? Яго называлі кашальком Лукашэнкі, але ці бачыў хто гэты кашалёк, ці зазіраў хто ў яго? Усё гэта на ўзроўні меркаваньняў". Але і сп.Гуляеў прызнае, што да канца сутнасьць таго, навошта былі сп.Ціцянкову гэтыя прызнаньні і што яны азначаюць, няясная: "У мяне шмат падазрэньняў было, ёсьць і будзе. Бо ведаю Ціцянкова гадоў 20, з часу працы ў Магілёўскім абкаме. Аднак як журналіст я прыходжу да чалавека, які цікавы грамадству. Былі зададзеныя яму нейкія пытаньні, не на ўсе ён адказаў. Мне было сказана, што на во гэтае і во гэтае пытаньні ён адказваць ня можа, і я мусіў пагадзіцца".

# Чарговы працоўны адпачынак Мясьніковіча,

## *якога пасьля выбараў можа зьмяніць Сівакоў*

**З 8 да 10 ліпеня адбываецца візыт кіраўніка Адміністрацыі прэзыдэнта Міхаіла Мясьніковіча ў Кувэйт. У склад беларускае дэлегацыі ўлучаныя прадстаўнікі канцэрнаў "Белэнэрга" і "Белнафтахім".**


IREX-PROMEDIA

Цягам візыту плянуецца падпісаць міжурадавыя пагадненьні аб узаемнай абароне інвэстыцыяў, пазьбяганьні падвойнага падаткаабкладаньня, а таксама пратакол у Кувэйцкім фондзе арабскага эканамічнага разьвіцьця. Паводле афіцыйных зьвестак, тавараэварот між нашымі краінамі за першыя тры месяцы 2001 г. склаў 1218 тыс. даляраў (выключна беларускі экспарт).

Візыт у Кувэйт, як і нядаўні візыт прэм'ера Ўладзімера Ярмошына ў Лібан, у чыноўніцкіх колах называюць працоўнымі адпачынкамі перад маючымі адбыцца прэзыдэнцкімі выбарамі. Зьвязаная зь візытам у Кувэйт часовая адсутнасьць Мясьніковіча ў Менску можа мець і ўнутрыпалітычнае значэньне.

Ягоны першы заступнік Уладзімер Замяталін зьяўляецца старшынём беларуска-іракскае камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве й адстойвае ў Менску інтарэсы Багдаду. Ягоная замежнапалітычная дзейнасьць не заўсёды віталася ў МЗС.

Замяталіна называюць адной з пэрспэктыўных кандыдатураў на пасаду пасла ў Багдадзе. Але пасьля прэзыдэнцкіх выбараў.

Магчымая і высылка самога Мясьніковіча паслом куды-небудзь. Не сакрэт, што Замяталін фактычна выйшаў з падпарадкаваньня свайго непасрэднага начальніка Мясьніковіча й замахваецца на пасаду кіраўніка Адміністрацыі. Так што ён цалкам можа скарыстацца ў сваіх карысьлівых інтарэсах адсутнасьцю свайго шэфа. Але больш шанцаў зьмяніць Мясьніковіча пасьля выбараў мае іншы намесьнік галавы Адміністрацыі — Юры Сівакоў. Пад маркай інспэкцыі ачольваная ім група супрацоўнікаў Адміністрацыі працягвае езьдзіць па рэгіёнах Беларусі, замацоўваючы сувязі зь мясцовымі органамі ўлады й правяраючы па заданьні кіраўніка дзяржавы надзейнасьць кадраў, якія ўважаюцца вылучэнцамі Мясьніковіча.

**Рычард Бурштым**

## Расея
### На шляху да вэртыкалі

**Кіраўнікі Паволжжа адмаўляюцца ад часткі сваіх уладных паўнамоцтваў на карысьць цэнтральнае ўлады**, пра што й пішуць у калектыўным лісьце Пуціну, які мае зьявіцца на днях. Яны просяць ануляваць дамовы між правінцыямі і цэнтрам аб разьмежаваньні паўнамоцтваў, бо, мяркуюць, патрэбы ў іх больш няма і тэрмін іх дзеяньня пераважна выйшаў. Засталася толькі адна праблема — існаваньне гэткіх дамоваў замацавана ў расейскай Канстытуцыі.

## Чэхія
### Заняпад цэркваў

**Сьвята Кірылы й Мятода ды ўгодкі сьмерці Яна Гуса — адзіныя, апрача Калядаў і Вялікадня, рэлігійныя сьвяты ў Чэхіі, абвешчаныя выходнымі днямі.** 5 ліпеня ў паўднёвамараўскім Веляградзе адбылася імша ў памяць сьвятых, якія ў 863 г. прынесьлі чэхам хрысьціянства. Але сабралася на яе толькі 30 тыс. чалавек. Няшмат!.. Праблемы чэскае каталіцкае царквы выявілі і вынікі апошняга ўсеагульнага перапісу. За 10 апошніх гадоў вернікаў у Чэхіі паменшала на 1,3 млн асобаў. У 1991 г. каля 40% чэхаў называла сябе бязбожнікамі, у 2001 г. гэты паказьнік дасягнуў 58%. Найбольшыя страты меў рыма-каталіцкі касьцёл, дзе колькасьць вернікаў паменшала ад 4 да 2,7 млн. асобаў. Вернікаў пагублялі і Эвангелічная царква (140 тыс.), і Гусіцкая царква (96,4 тыс.).

### Выгады Эўразьвязу

**Чэхія пасьля ўваходжаньня ў Эўразьвяз штогод будзе атрымоўваць з Брусэлю каля $1700 млн. датацыяў**, а сама будзе плаціць у саюзны скарб $660 млн.

**С.Р.**


IREX-PROMEDIA

## Ліст у рэдакцыю
### Пішу да вас з Аўстраліі

**Піша да вас Міхась — з Аўстраліі.**

У Аўстраліі зараз восень і пачатак зімы, самыя прыгожыя і прыемныя поры году: цёплыя сонечныя дні, тэмпэратура ў Сыднэі 12–21 градус. У сярэдзіне зімы (ліпень – пачатак жніўня) бывае і "вельмі халодна", бо часам 3–4 градусы раніцай.

Ёсьць у нас таксама бяда, хвароба, якая завецца старасьць. Бальшыня нацыянальна сьвядомага беларускага грамадзтва ўжо пасьля 70 гадоў, а прыросту амаль няма, так што будучыня выглядае ня вельмі цікава. Але ж не пахіляем галоваў, можа здарыцца цуд.

**Міхась Лужынскі, Гілдфард**





## Расея-Беларусь
### Пуцін, магчыма, не прыедзе

**На 25 ліпеня прызначаная сустрэча Лукашэнкі, Кучмы і Пуціна ў Віцебску на "Славянскім базары" — чарговы этап перадвыбарнай кампаніі ППРБ.** Але, як паведамілі крыніцы з выбарчага штабу М.Марыніча, які на мінулым тыдні быццам бы езьдзіў у Маскву, магчыма, Пуцін у Віцебск не прыедзе.

**Р.Я.**

## Візыт Папы
### У Беларусь?



**Папа Ян Павал II 24—26 верасьня наведае Арменію**, заехаўшы перад тым у Казахстан. Нагода для візыту ў Арменію — урачыстасьці, што адбудуцца ў тым краі з прычыны 1700-х угодкаў абвяшчэньня хрысьціянства дзяржаўнай рэлігіяй Арменіі. На урачыстасьці запрасілі й маскоўскага патрыярха Алексія II, які адмаўляецца-ткі сустрэцца зь Янам Паўлам. Крыніцы, блізкія да беларускага біскупату, паведамляюць, што Папа вельмі хацеў бы наведаць і Беларусь. Яны не выключаюць, што такі візыт мог бы адбыцца ўжо налета. Застаецца дадаць умову, пра якую яны маўчаць: калі ў Беларусі зьменіцца палітычная сытуацыя.

**Сяргей Рак**

## Ад'езды
### Аркуш – у Вільню



**Полацкі пісьменьнік Алесь Аркуш, галоўны рэдактар часопісу "Калосься"**, часова перабраўся на жыхарства ў Вільню. Мо, застанецца там і на стала.

**С.Х.**

## Дзе варта быць

### Ляўрэатка "Грэмі"

**10 ліпеня а 19-й у Філярмоніі — канцэрт ляўрэаткі прэміі "Грэмі", амэрыканскай флейтысткі Ронды Ларсан,** што працуе ў стылі world music. Гэта сумесь клясыкі, джазу й этнічных матываў; хаця, як кожнае азначэньне, і гэтае — занадта схематычнае й няпоўнае. Канцэрт Ронды Ларсан арганізаваны амбасадай ЗША, дзякуючы якой і квіткі надзвычай танныя — ад 1000 да 2600 руб. У 45 разоў таньнейшыя, чым на канцэрт Пугачовай.

### Грунвальд



**На 15-га ліпеня зьезьдзіць у Польшчу, папрысутнічаць на рэканструкцыі Грунвальдзкае бітвы.** Дабірацца трэба да Ольштына ці наўпрост, ці электрычкамі праз Варшаву — а там падкажуць.

**Дзяніс Носаў**

## З усёй краіны

### Як закляў хто

**Апоўначы, з 5 на 6 ліпеня непадалёк ад Талачына ў аўтакатастрофе загінулі шасьцёра асобаў, чацьвёра зь іх бялыніцкія бізнэсоўцы.** У гэтай аўтакатастрофе загінуў і старшыня Бялыніцкае суполкі ТБМ Сяргей Некрашэвіч.

Прыкладна ў той жа час на Смаленшчыне надарылася яшчэ адна аўтакатастрофа. У гэтай аўтакатастрофе загінула чацьвёра грамадзянаў нашае краіны, якія вярталіся з Маскоўскае вобласьці, дзе працавалі. Усе чацьвёра — таксама зь Бялынічаў.

**Алесь Асіпцоў, Магілёў**

### Шчодры прадпрымальнік

**Новы маршрут аўтобуса зьявіўся ў Баранавічах.** Дзякуючы дырэктару ПКФ "Альфа" Міхаілу Сапегу, які прафінансаваў адкрыцьцё маршруту №23 ад вул.Рэпіна да цэнтру гораду. М.Сапега мае тамака сваю краму, дык пабудаваў за свой кошт прыпынак, заасфальтаваў дарогу й прафінансаваў адкрыцьцё маршруту. Прадпрымальнік мае плян таксама заснаваць у мікраражне пякарню й цырульню.

### Настроі ў Баранавічах

**У Баранавічах студэнцкае задзіночаньне "Паляда" правяло апытаньне грамадзкае думкі.** Высьветлілася што 29,5% жыхароў гораду маркуюць, што Беларусь павінна быць незалежнай зусім (26,3% у студзені), 28,8% — за незалежнасьць у раўнапраўным саюзе з Расеяй (36,5%), 32,4% за далучэньне Беларусі да Эўрасаюзу (30,6%). Толькі 9,2% жадаюць, каб краіна стала часткай Расеі.

За Лукашэнку сёньня гатовыя прагаласаваць 33,7% (30,5% у студзені), за любога з кандыдатаў, але не за Лукашэнку 41,6%. За дэмакратычнага кандыдата будуць галасаваць 32,5% (19,8%).

Дарэчы, за Домаша ў горадзе на ўчора сабралі больш за 3150 подпісаў.

**Равяка Руслан, Баранавічы**

## Водгук

### Раз, два...

**Алесь Урбановіч у сваім артыкуле "Дзякуем Пазьняку — галасуем за Домаша" ("НН" ад 25 чэрвеня) заклікае Зянона Пазьняка зьняць сваю кандыдатуру. Аргумэнты, якімі карыстаецца аўтар, слушныя, нават даволі пераканаўчыя, але між тым павярхоўныя.**

Пазьняку было б вельмі неразумным адмаўляцца, маючы прыстойны палітычны грунт. Дзясяткі тысячаў людзей чакаюць Пазьняка, ён ім патрэбны. Іншая справа — наколькі палітычна ён пасталеў, пазбыўся прасталінейнасьці й чорна-белага падзелу людзей на ворагаў і сяброў, стаўся адукаваным у тактыцы, навучыўся маўчаць там, дзе трэба. Як мне здаецца, палітык павінен больш асьцярожна і, галоўнае, больш умела карыстацца тэрмінамі "акупацыйны рэжым", "каляніяльная намэнклятура" — большасьці людзей, якія вырасьлі ў савецкія часы, гэта незразумела.



Адмова Пазьняка ўдзельнічаць у выбарах будзе яшчэ адной паразай нацыянальнага руху. Трэба заўсёды памятаць, што патрыятычным сілам супрацьстаяць расейскія прафэсіяналы, ды не абы-якія.

А тыя, каму, як піша сп.Урбановіч, "нацыянальная ідэя абыякавая", не зьяўляюцца нашымі хаўрусьнікамі! Мы не павінны абараняць іхныя інтарэсы, калі яны адмаўляюцца ад нашых інтарэсаў. Ня хочацца "нацыянальна абыякавыя" заможна жыць у незалежнай дзяржаве — няхай жывуць бедна ў чужой дзяржаве. Шаноўны Алесь Урбановіч, як шмат хто з сучасьнікаў хоча адным рашучым крокам перамагчы, але так не бывае. Шлях да перамогі доўгі й патрабуе настойлівых, сыстэмных намаганьняў.

**К.Т., Менск**

# Людзкае сена





Працяг са старонкі 1.

Жыцьцё працягваецца, і крыўда на "дурны" народ ня можа прымацца вечна. Я раптам злавіла сябе на тым, што разумею вёску лепей за сталіцу і пачуваюся сярод вяскоўцаў нашмат утульней, чым у звыклым, "нацыянальна сьвядомым", "палітычна падкаваным" менскім асяродку. "Апазыцыйны" Менск здаецца больш чужым у параўнаньні з "лукашэнкаўскай" глыбінкай.

Безыдэйнасьць вёскі, яе простыя клопаты і складаная "трасянка" грэюць болей, чым абясцэненыя, калісьці высокія ідэі апазыцыі. Нашая дэмакратычная валтузьня надакучыла за сем гадоў ня менш, чым розныя сэлектарныя нарады. Разбурэньне стэрэатыпаў і зрынаньне куміраў, магчыма, стане вынікам гэтае стомы. Усё залежыць ад маштабу зьявы і прагі волі.

Я пыталася ў людзей, што палолі калгасныя буракі ці зграбалі ўласнае сена, за каго яны маркуюць галасаваць на верасьнёўскіх выбарах. Некаторыя дзядзькі жартавалі, што галасавацьмуць за ўраджай бульбы — то бок за бульбай, можа стацца, ня пойдуць на выбары. Дзядзькі хітравалі. У вёску скрыні зь бюлетэнямі ўсё адно прывязуць, а начальства, калі што, асабіста наведае палі, каб кожнага пэрсанальна запрасіць на галасаваньне. Наўрад ці хто "адкруціцца". Не ўяўляю вясковага чалавека, які знарок пасварыцца з брыгадзірам толькі з-за нежаданьня запаўняць бюлетэнь.

Жанчыны сталага веку казалі, што будуць абіраць "толькі Лукашэнку": "З Лукашэнкам усё ясна. Вядома, ён не зусім праў. Але хоць прывыклі да яго", — разважаюць сяляне. Дый усе як адзін гавораць пра сваё нявер'е ў любую ўладу. Вёска абсалютна нігілістычна ставіцца да ўлады як інстытуту і ў гэтым сэнсе існуе аўтаномна, ад дзяржавы. "Вашаму Пазьняку ці яшчэ каму будзе на нас гэтаксама пляваць, як цяпер пляваць Лукашэнку, а некалі — Брэжневу", — кажуць старыя. Яны абыякавыя да пэрсаналіяў ды ідэалёгіяў. Іхная праца пры любым прэзыдэнце застанецца тая самая. Сёй-той можа патэтычна выгукнуць, абгрунтоўваючы ўласную абыякавасьць: "Дзеткі, ды мне хутка ў беразьнячок пара, я сваё аджыў, якія яшчэ выбары? Якія такія пэрспэктывы?". Беразьнячок — гэта могілкі на ўскраіне вёскі.

Аднак, ёсьць усё-ткі нехта, на каго не распаўсюджваецца тутэйшая абыякавасьць да ўладных пэрсаналіяў. Гэта мясцовы "бацька". У калгасе, у склад якога ўваходзіць вёсачка цёткі Веры, пару месяцаў таму зьмяніўся старшыня. Гэта ўжо другая такая зьмена ў гаспадарцы за апошнія тры гады. Ёсьць што і з чым параўноўваць мясцовым жыхарам! І яны параўноўваюць — і захапляюцца. Калі бліскучая цёмна-сіняя "Ніва" з хуткасьцю, на якую не ўплывае якасьць дарог, імчыцца вясковай вуліцай, нехта зь мясцовых людзей абавязкова задаволена вымавіць:

— Во, паехаў... У пяць гадзін раніцы ён ужо на колах! Аб'едзе ўсенькі калхоз ды гляне, дзе што робіцца!

Яшчэ могуць згадаць рэаліі часоў папярэдняга старшыні:

— Як былі ў нас Сьцяпана прызначылі, дык ажно год цэлы мы яго ў твар не ведалі! Сядзеў у канторы. А гэты? Наступным жа днём быў тут!

Найбольш уразіў новы начальнік старых вясковых кабетаў у самы разгар чэрвеньскага сенакосу. Першы месяц лета, як вядома, выдаўся дажджлівы ды халаднаваты. Цётка Вера й цётка Каця скардзіліся мне, што два тыдні ніяк ня могуць высушыць сена: дзень сохне — дзень мокне. Вось аднойчы ў абед, апалоўшы норму калгасных буракоў (за апрацаваны гектар буракоў калгас дае 240 кг мукі), пэнсіянэркі пайшлі ў вясковую краму па хлеб ды загаварыліся там зь іншымі кабетамі. Раптам дзьверы адчыніліся — і зьявіўся новы старшыня.

— Жанчыны, годзе вам стаяць размаўляць, зграбайце сваё сена хутчэй — па радыё пасьля абеду дождж перадавалі.

Старшыня агледзеў краму і, нічога не купляючы, выйшаў. А пакупніцы сталі аслупянелыя мо хвіліны дзьве. "Усё жыцьцё ў калгасе працую — ніколі ня бачыла, каб начальства калгаснае клапацілася пра людзкае сена! — распавядала мне потым цётка Каця. — Першы раз у нас такое!"

Назаўтра з гораду прыехалі сваякі і прывезьлі мне стос незалежных газэтаў. У "Народнай Волі" я прачытала прапанову Паўла Казлоўскага "пагаварыць з бабуляй". Гэта сапраўды геніяльна простая ідэя, якая можа мець дзейсны вынік. Мае вясковыя сваякі-пэнсіянэры цяпер у разгубленасьці. За каго галасаваць, яны пытаюцца ў калгасных цётачак-даярак. Тыя кажуць, што альбо за Лукашэнку, альбо — ні за кога. Калі зь імі пагавару я, яны аддадуць сымпатыі таму, за каго я папрашу альбо нават загадаю. Я ўзамен гарантую ім грамадзянскі мір у сям'і . Мы заключым пагадненьне і абярэм залатую сярэдзіну. Я пакуль, на жаль, ня ведаю, каго. Спрабую назваць пяць... "Вой, ды ты што, мы ўсё роўна не разьбяромся ў вашай палітыцы! — крычаць цётка з суседкаю. — Імя адно скажы, каго пакідаць у тым бюлетэні!". "Ціха, кантора калгасная блізка, там жучкі гэтыя, — шэптам перасьцерагала немаладая суседка-даярка, якую мы падвозілі на калгасны справаздачны сход. — Скажы лепей, за каго галасаваць. Імя. Каб ЁН праз "жучкі" ня мог пачуць, за каго мы, старыя, тут прагаласуем!" — зь нянавісьцю раптам скончыла жанчына. (ЁН — дзеючы прэзыдэнт.)

Я "пагавару з бабуляй", і не з адной. Суразмоўцаў поўна: цёткі, дзядзькі, сябры маленства, іхныя суседзі ды знаёмыя. Але гэтага мала. Хто паедзе ўлетку на вёску — пагаварыце са старшынём! Асабліва калі ён мае вялікі аўтарытэт. Вылічыце, каго сяляне ўважаюць за "тутэйшага бацьку", і пазнаёмцеся зь ім. Пацікаўцеся справамі калгасу, прыглядзіцеся, што за чалавек.

Калі ж недзе нейкі начальнік мае высокі адмоўны рэйтынг — скарыстаць можна й гэта. Скажыце пра яго: агент Пазьняка, шпіён Лукашэнкі. Гледзячы, каго ў канкрэтнай вёсцы больш ня любяць. Шанцаў у таго і ў другога — усё адно нуль.

Што праўда, рэйтынг Міхаіла Чыгіра ў маёй вёсцы ў Капыльскім раёне таксама пакуль што не падвышаецца, хоць кандыдат і паходзіць з гэтых мясьцінаў. Сымпатыі вясковага электарату здольны выклікаць вострыя на язык рабочы Антончык альбо надзейны, як сьцяна, генэрал Казлоўскі. Гэткія іміджы — зусім не нішто для так званага простага чалавека. Домаш пакуль на Случчыне зусім невядомы.

**Тацяна Сьнітко**

# 1851—2001

**Няма тугі па прамінулым XX ст. Бо ўсё лепшае, што за гэты час рабілася ў беларушчыне, было прадыктаванае тугою па стагодзьдзі XIX-м. У дакумэнтальнай рэальнасьці XX ст., нібы тыя печы на папялішчах хат, парасстаўляныя мулкія і неадушаўлёныя знакі бяды — Курапаты, Хатынь, Чарнобыль, а за імі, нібы параграфы разьдзелаў, — калектывізацыя, нацдэмы, партызаншчына, радыяцыя, намэнклятура, Лукашэнка... Ходзіш паміж гэтых знакаў, а ў душы — туга. Бо самая культура наша — гэта туга па ідыліі: па фантастычна прыгожых краявідах, як на малюнках Орды, — зямля сядзібаў; па чалавечай шчырасьці, як у лістах Пачынальнікаў; па яснай мэце змагання, калі не мяшаюцца дабро і зло, як у бітвах 1831-га і 1863-га; па высокім аўтарытэце культуры і адукацыі, як у Полацкім калегіюме або Віленскім унівэрсытэце; па чыстаце і людзкасьці. Самыя беларускія творцы, чыё мастацтва прасякнутае нацыянальнай ідэяй — людзі гэтай тугі. Таму Ўладзімер Караткевіч, да прыкладу, — пісьменьнік XIX ст. А Пётра Сергіевіч — мастак XIX ст. А Зянон Пазьняк — палітык XIX ст. Ад творцаў пазьнейшага часу іх адрозьнівае рамантызм, адназначнасьць і першынство маралі. Таму і творы XIX ст. чытаюцца нібы сёньняшнія. Выглядае, што пры канцы XIX ст. выразьнікі беларускай ідэі моцна затужылі па сваім веку. Туга тая стала культурай на ўсю пэрспэктыву, і мы са сваёй верхатуры часу, тым ня менш, таксама — частка тае тугі і тае культуры. Адлік усяго гэтага тужэньня пачынаецца з канкрэтнага чалавека — зь Янкі Лучыны.**

**Сяргей Паўлоўскі**

# Паэт-сымулянт





# Менскі культурны герой

Уладзімер Содаль

Янка Лучына — патомны мянчук. Ён нарадзіўся і гадаваўся ў Менску. Хрысьцілі яго 25 чэрвеня 1851 г. у Менскім рымска-каталіцкім катэдральным касьцёле. Бацькі ягоныя жылі на колішняй вуліцы Юраўскай, па адных зьвестках — на 1877 г., у доме Лапіцкага, па іншых — на 1880 г. — мелі свой дом, свой двор на Юраўскай, 23. Вуліца гэтая колісь ішла між Захараўскай і Хрышчэнскай (цяпер праспэктам Скарыны і Інтэрнацыянальнай).

На рагавіку Хрышчэнскай колісь жылі Манюшкі. На схіле гары, бліжэй да рэчкі — Ваньковічы. Вось у такім месьце й гадаваўся Янка Лучына. Што ж яго, гарадзкога юнака, інжынэра-чыгуначніка, народжанага ў самым цэнтры Менску Губэрнскага, скіравала да творчасьці на не прызнанай афіцыйна мове? Адным з такіх імпульсаў, штуршком быў прыезд у Менск украінскага тэатру. Спэктаклі на украінскай мове ўзрушылі менскага юнака, і ён адгукнуўся на гэта сваім шчырым вершам па-беларуску — "Усёй трупе дабрадзея Старыцкага беларускае слова":

Дзякую Вам, брацікі, сястрыцы<br>родныя!<br>За Вашы хвацкія песьні народныя,<br>За тую гутарку Вашу вясковую,<br>За праўду сьветлую, за праўду новую!<br>...Яе ж паслышыць наша старонка!<br>Сьпявайце ж, братцы, сьмела і звонка:<br>Ня згіне песьня і Ўкраіна!<br>Будзьце здаровы!

**Янка Лучына.**

## "МИНСКІЙ ЛИСТОКЪ"

На Юраўскай, недалёка ад дому Янкі Лучыны знаходзілася рэдакцыя газэты *"Минскій листокъ"*. Яна мела літаратурны дадатак, у якім друкаваліся Лучынавы беларускія вершы.

Карыстаўся ў менчукоў папулярнасьцю і *"Альманах Северо-Западного календаря"*. Менавіта ў ім на 1862 г. быў надрукаваны адзін з найлепшых Лучынавых вершаў "Родная староныца", пра які шчэ будзе гаворка ў гэтым артыкуле.

Літаратурны дадатак да менскага календара з публікацыяй беларускіх вершаў Янкі Лучыны, паводле слоў Аляксандра Ўласава, быў сапраўдным адкрыцьцём: "Адкрылі цэлы народ, каторы займаў гэтую зямлю". Лучынаў верш "Роднай старонцы" быў беларускім гімнам, беларускай візытоўкай. Яго цытавалі, ставілі эпіграфам да грунтоўных прац (прыкладам, да "Беларусаў" Яўхіма Карскага).

Янка Лучына быў трохмоўным паэтам: пісаў па-польску, расейску і па-беларуску. Псэўданімам Янка Лучына паэт падпісваў свае беларускамоўныя творы, польскія, адпаведна, — Ян Неслухоўскі, расейскамоўныя — Іван Неслухоўскі.

Пісаць па-беларуску Янка Лучына пачаў пад уплывам культуразначнае аўры, што пачала складвацца ў Менску на тую пару. Тут зьявіліся такія рупліўцы, як Аляксандар Слупскі — выдавец "Паўночна-Заходняга Календара"; Фоцінскі — рэдактар; гісторык Мікола Татур; археоляг Андрэй Сьнітка; фалькларыст і этнограф Доўнар-Запольскі.

## ПЕРШАЯ КНІЖАЧКА XX СТАГОДЗЬДЗЯ

У 1897-м Янка Лучына памёр. Але думка пра выданьне ягоных беларускіх твораў не пакідала сымпатыкаў ягонай творчасьці. За гэта ўзяліся найперш маладзейшыя, нацыянальна сьведамыя беларусы, выгадаваныя на ягонай паэзіі. І найперш Іван і Антон Луцкевічы.

Гэта зь іхняй рупнасьці ўбачыла сьвет Лучынава "Вязанка". Назву не браты Луцкевічы вылушчылі з Лучынавага вершу "Пагудка":

Назьбіралась вязаначка на дар маёй<br>браці<br>Сярэдзь нашых палей, лясоў, сярэдзь<br>сенажаці.<br>Не для зыску зьбіраліся і ня дзеля<br>хвалы,<br>Так — папросту, як зьбіраем зельле ў<br>дзень Купалы.

## "ВЯЗАНКА"

Зборнік Янкі Лучыны "Вязанка" быў выдадзены "Гуртком Беларускае народнае асьветы", які заснавалі ў канцы 1902 г. у Пецярбургу Іван і Антон Луцкевічы. Сам Антон Луцкевіч пра гэта згадвае так: "Арганізацыя на першым месцы ў сваёй праграме паставіла: друкаваньне беларускіх чытанак і тварэньне беларускай школы для народу. Пачалі зьбіраць складкі, ладзіць вечарыны, ды гэтак злажыўся невялікі фонд, зь якім мы і прыступілі да друку "Вязанкі" Янкі Лучыны (у 1903 г.). (Ан. Луцкевіч "За дваццаці пяці гадоў (1903-1928). В., 1928)

Сяргей Палуян у сваіх "Лістох у будучыню" паведамляў, што зборнік Янкі Лучыны выйшаў на сродкі ад вечарыны, якая адбылася ў Менску. Паказвалі "Пашыліся ў дурні" Крапіўніцкага.

Цэнзура дазволіла друкаваць "Вязанку" Янкі Лучыны 24 красавіка 1903 г. Беларуская мова на пачатку стагодзьдзя была пад забаронай. Выдаўцы ўвялі цэнзуру ў зман, сказаўшы, што яны выдаюць кніжачку на баўгарскай мове. Ня ўсе водгукі на Лучынаву кніжку былі зычлівыя. Скажам, газэта *"Могилевский вестник"* у артыкуле "Брашура на беларускай мове" (1906, №76) пагардліва называла паэтычны зборнік "Вязанка" Янкі Лучыны "псэўданароднай літаратурай", якую нібыта ніхто не разумее.

Першае выданьне "Вязанкі" даўно стала рэліквіяй. Адзін яе асобнік маю ў сваім зборы і я. Да мяне ён прыйшоў ад Алеся Разанава гадоў за дзесяць ці болей таму. А да яго — зь Вільні, ад свайго кнігара Янкі Станкевіча.

У 1992 г. выдавецтва "Мастацкая літаратура" перавыдала факсымільна Лучынаву "Вязанку", і новыя пакаленьні чытачоў маюць мажлівасьць далучыцца да шчырай, трапяткой Лучынавай паэзіі.

## ПОШУК ЦЕНЯЎ

Блукаю, сную цяперашнімі вірлівымі менскімі вуліцамі, шукаю сярод сучасных гмахаў са шкла ды бэтону, між непрыкаянай нашай мітусьні якіхсь Лучынавых сьлядоў. І гэта мне калі-нікалі ўдаецца.

Вось у нізовіне за Палацам прафсаюзаў ацалела колькі трохпавярховых мураванак. Гэта, кажуць, рэшта колішняй Юраўскай. Дзесь поблізу жылі Неслухоўскія. Ацалела амаль і ўся колішняя Хрышчэнская — суседка Юраўскай. Шмат чаго ацалела з Лучынавых часоў і на былой Саборнай — зараз гэта Пляц Волі. Ацалеў і колішні Аляксандраўскі сквер. Праўда, ён шмат чаго страціў, зьмяніўся. Зьнікла ўкраса саду — арыгінальная каплічка. Але застаўся фантан "Амур зь лебедзем". Ён памятае Янку Лучыну. Гэтым фантанам ён не адзін раз цешыўся. Глядзеў на яго сваімі задуменнымі вачыма і бачыў у гэтай кампазыцыі якуюсь цноту і хараство жыцьця.

*Беларуская мова была пад забаронай. Каб увесьці цэнзуру ў зман, выдаўцы "Вязанкі" абвесьцілі, што выдаюць кніжачку па-баўгарску.*

Пошук Лучынавых ценяў калі-нікалі спараджаў і самыя розныя прывіды Лучынавай постаці...

...Вось ён ідзе Захараўскай вуліцаю на службу. У тэхнічнае бюро. Ён яшчэ пры здароўі. Хада нетаропкая, паважная, у рытме тагачаснага места...

...А вось ён мне мільгануўся на Белацаркоўным беразе Сьвіслачы. Вудзіць рыбу... Янка Лучына быў заўзяты рыбак і паляўнічы.

А вось ён на юраўскім панадворку ля весьнічак. З мыліцамі.

## ТОКІ

Янка Лучына памёр 16 (за старым стылем 28-га) ліпеня 1897 г. Пахавалі яго на менскай Кальварыі, дзе ўжо спачывалі ягоны бацька, маці ды іншыя родныя.

Маленькі акропаль Неслухоўскіх, зусім побач са сьвятыняй. Менавіта гэты род даў першага зь менскага гарадзкога асяродзьдзя беларускага песьняра. Янка Лучына — Іван Неслухоўскі — першы беларускамоўны менскі песьняр.

Магілка яго ацалела, і ў памяркоўным стане. У менчукоў ёсьць добрая нагода яе наведаць.

А дзе ж нашчадкі Неслухоўскіх? Ці жыве дзе хто? Вось гэтага якраз ніхто ў Беларусі ня ведае... Жыў-быў у нашым старым Менску Губэрнскім слынны шляхетны род Неслухоўскіх, і раптам з гэтага роду нікога! Гэта ўжо трагедыя. І ня толькі роду Неслухоўскіх, але ўсяго нашага краю, нашай культуры.

## ЛУЧЫНАВЫ ПРОМНІ НА СТАРОНКАХ "НАШАЙ НІВЫ"

Імя Янкі Лучыны не сыходзіла са старонак першай легальнай беларускай газэты. Чытачы "НН" шукалі ў Лучынавай паэзіі падмогі, духоўнага аптымізму. Для прыкладу згадаем адзін, найбольш яскравы ліст, які быў апублікаваны ў "Нашай Ніве" 15 (23) кастрычніка 1909 г.

*Ліст да рэдакцыі*

"Мы, сыны Белай Русі, пасылаема сваё гарачае прывітаньне зь "цёплых вод" ... Шукаючы сьвету навукі, мы апынуліся без малога за 2700 вёрст ад роднай старонкі, на берагу Чорнага мора. ...Не пачуеш тут, як дома, свайго роднага беларускага слова, і ад гэтага яно яшчэ даражэйшым нам сталася. Мы на чужыне вучымся яшчэ мацней шанаваць яго і не забываць. Вялікая ўцеха нам тут — гэта газэта "Наша Ніва" зь яе роднай мовай, зь яе весьцямі аб родных вёсках, аб жыцьці нашых далёкіх бацькоў і братоў. Ад душы дзякуем рэдактару газэты, каторы ўзяў на сябе вялікі цяжар саўбы сьвету і праўды па цёмных вуглох, дзякуем супрацаўнікам і шлем вам найлепшыя жаданьні. Мы заўсёды будзем удзячны вам за вялікую вашу культурную працу. ...Пры такой працы не замарудзяць споўніцца словы нашага нацыянальнага песьняра, каторы, вяшчэбным вокам відзячы людзей, саўсім аддалёных падняцьцю грамадзянскай сьвядомасьці беларусоў, сказаў:

"Сонца навукі скрозь хмары цёмныя<br>Прагляне ясна над нашай ніваю,<br>І будуць жыці дзеткі патомныя<br>Добраю доляй, доляй шчасьліваю!"

Вучні Феадасійскага Вучыцельскага Інстытуту:

Сымон Рак (Віленск. губ.), Андрэй Якубоўскі (Гарадз. губ.), Міхась Багданскі (Віленск. губ.), Янук Юрынок (Менск. губ.), Цімафей Кулаеў (Магілёўск. губ.), Ф.Яленскі (Магілёўск. губ.)

"НН", 15(28).X.1909 г.

## "СВАБОДА", "НАША ДОЛЯ", "НАША НІВА"...

Незалежны беларускі друк XIX ст. пачынаўся з газэтаў "Свабода", "Наша Доля", "Наша Ніва" (імі ж і канчаўся). Усе гэтыя назвы вылучаныя з апошняй страфы Лучынавага верша "Роднай старонцы", які вышэй цытаваўся: "Сонца навукі скрозь хмары цёмныя...".

Калі ўважліва ўгледзецца ў гэтыя радкі, ня цяжка вылучыць словы, якія падказалі заснавальнікам назвы для першых беларускіх газэтаў. Возьмем першыя словы зь першага радка. У арыгінале ў Янкі Лучыны было ня "Сонца навукі", а "Сонца свабоды...". Пра гэта сьведчыць у сваёй кнізе "Крокі гісторыі" Аўген Калубовіч: "...прафэсар Эпімах-Шыпіла апавядаў, што рэдактар "Северо-Западного календаря" на 1892 г. А.Слупскі дзеля цэнзурных умоваў у апошняй страфе верша Янкі Лучыны "Роднай старонцы", ...змушаны быў слова "свабода" замяніць на "навука" (як яно й друкуецца дагэтуль). Але людзі ведалі арыгінал вершу, і ледзьве выдалася мажлівасьць наладзіць выданьне беларускай газэты, ім згадаўся Лучынаў радок з словамі "свабода". Радок з "Добрай доляй..." падказаў назву "Наша Доля", а словы з радку "над нашаю ніваю" спарадзілі, падказалі назву "Наша Ніва".

Зьміцер Бартосік

# Мархачоўшчына

**Наведаемся ў фальварак Мархачоўшчыну пад Стоўпцамі, куды Неслухоўскі-Лучына любіў прыяжджаць на паляваньне. Да Неслухоўскіх гэтую радзівілаўскую маёмасьць арандаваў Аляксандар Кандратовіч, бацька Ўладзіслава Сыракомлі. Цяпер у Мархачоўшчыне ёсьць памятны знак у гонар Сыракомлю і Лучыну — двух выдатных паэтаў. А мясцовы калгас носіць імя трэцяга — Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна.**

Паэзія Янкі Лучыны прасякнутая жалем і тугою па XIX-м ст., дзе яшчэ ня сьцерліся з памяці трагедыі трох паўстаньняў, дзе яшчэ працягвае жыць насуперак новым парадкам шляхецкая вольнасьць, дзе тутэйшыя паны з тутэйшымі мужыкамі яшчэ не згубілі супольнае мовы. Дзе старыя людзі яшчэ памятаюць артыкулы Літоўскага Статуту, а многія ня выракліся уніі. І дзе яшчэ існуе панятак "сьвятая Літва". Менавіта так Лучына ў сваіх лістах называе ваколіцы вёскі Мархачоўшчына, дзе сям'я арандавала фальварак. Зрусіфікаваны губэрнскі горад Менск, у якім ужо адчуваецца напоўніцу прыход новага XX ст., мала прысутнічае ў творчасьці менскага паэта Янкі Лучыны. Ад шумных чужых рэаліяў яшчэ, дзякуй Богу, ёсьць дзе схавацца.

І як строй дамоў сталічных
Бачу ў пышных я ўбраньнях,
Дзе дагнана ўсё дазваньня,
То хвалю задуму, воблік,
Узьлёт мастацтва, шык будоўлі, —
Але сам у думках звычных
Ля ліцьвінскай хаты простай,
Што ўсьміхаецца праз вёрсты,
Бы здалёк сардэчна кажа:
"Мо зайшлі б, як воля ваша"...

Едучы ў вёску Мархачоўшчына, я, вядома, не спадзяваўся ўбачыць падмуркі шляхецкага фальварку ці сустрэць нашчадкаў Рыгора, пэрсанажа "Паляўнічых акварэлек". Мне цікава было паспрабаваць зірнуць на Мархачоўшчыну вачыма чалавека XIX ст., а менш за ўсё хацелася сустрэць у тых мясьцінах безнадзейнае савецкае бязладзьдзе — вёску, што вымірае, п'яных калгасьнікаў ды закінуты мэхдвор.

Каб трапіць у Мархачоўшчыну, трэба, выехаўшы зь Менску па 30-й трасе ў бок Варшавы, перад Стоўпцамі збочыць на старую варшаўскую дарогу. І праз дзясятак кілямэтраў ужо ў самых Стоўпцах павярнуць налева на 54-ю дарогу, што вядзе да Нясьвіжу. І вось тут, пераехаўшы церазь Нёман, трапляеш у мястэчка Новы Сьвержань, дзе чакае першае прыемнае ўражаньне. Уся дарога дагэтуль мала чым можа ўразіць. У раёне Стоўпцаў — суцэльная прамзона: пыльныя склады, нейкія аўтабазы, бэтонныя платы з пад'ёмнымі кранамі. І раптам у цэнтры Новага Сьвержаню перад вачыма вырастаюць два старыя вялікія храмы XVI ст. — праваслаўны й каталіцкі, пабудаваныя абапал дарогі. Праз якія тры кілямэтры трэба збочыць направа, дзе ўказальнік паказвае на вёску Кісялёўку. Дарога пойдзе крута ўверх. І там, на пагорку, у вочы кінецца высозная стогадовая ліпа, зялёная выспа могілак і дахі немалой вёскі. Гэта Мархачоўшчына.



Магіла Янкі Лучыны на Кальварыйскіх могілках у Менску

...Як тут зацішна! — не далятае
Тлум гарадзкі тут... Мовай бяз слоў
Вечнасьць са сьвету таго прамаўляе
Рэхам нямых дамавінаў і сноў.
І перад зрокам самотных, прысутных
Цені ўстаюць у прадоннай імгле.
Здэцца, там голас знаёмага чутны,
Поціск далоні каханая шле.

У самым высокім пункце наваколься, пад старою ліпаю ляжыць вялізны гранітны валун з жалезнаю шыльдаю: "Тут бывалі беларускія паэты Ўладыслаў Сыракомля і Янка Лучына падчас арандаваньня фальварку". Навакольны краявід вельмі беларускі: някідкая экзотыка раскіданая ў драбностках далёка не бяскрайняга далягляду. Някепска было б, каб першым, што бачыш у сваім жыцьці, быў менавіта гэты краявід. Ягоныя ўзгоркі ды пералескі інтрыгуюць і просяцца, каб іх пашырылі, і разам з тым назаўжды застаюцца ў памяці, як нешта глыбока асабістае. І неістотна, якое стагодзьдзе пануе навокал.

Аднак, вока тут цешыць ня толькі прырода. Вёску Мархачоўшчына ніяк не аднясеш да беспэрспэктыўных. Хутчэй наадварот — гледзячы на яе пэрспэктывы, можна засумнявацца ў прагнозах менскіх аналітыкаў адносна хуткага выміраньня вясковага насельніцтва. Старасьвечныя тут сапраўды амаль няма. Дамы грунтоўныя, пераважна цагляныя. І паселішча разбудоўваецца ўшыркі зграбнымі катэджамі. У шмат якіх прадугледжаны гаражы.

Я ўявіў, што б рабілася ў маёй галаве ці маёй душы, калі б я даведаўся пра такую незвычайную рэч. Шмат гадоў таму ў маёй вёсцы, мажліва нават на маёй вуліцы, жыў паэт. Які пісаў пра маю вёску, распавёў пра яе сьвету... Далібог на знаёмыя краявіды я глядзеў бы ўжо крыху й ягонымі вачыма. А дзеля чаго жыць тут, як ня дзеля вершаў?..

Па галоўнай вуліцы Мархачоўшчыны ішла кабета сярэдняга веку.

— Вам пра паэта Янку Лучыну ні бацькі, ні дзяды нічога не казалі?

— Ну, бацькі, можа, яго і зналі, але, як быў малазнаёмы, дык ніколі к размове не прыходзіла гэта.

— А Вы самі не чыталі ягоныя вершы?

— Можа і чытала, але ня помню ўжэ.

— А як Вы ўспрынялі гэты факт, што вось у вашай вёсцы жыў беларускі паэт?

— Ну, як ён жыў, як ён паэт, цяпер яго прызналі, дык нармальна. Хай праслаўляецца. Сваёй працай.

Сама таго ня ведаючы, Ірына Юрасава растлумачыла мне вельмі шмат. Якія тут 150 гадоў! Калі "быў малазнаёмы". І які можа быць паэт, пакуль яго не "прызналі".

Ад'яжджаючы зь вёскі, я на пару хвілінаў прыпыніўся каля той старой ліпы, пэўна адзінай прыкметы колішняга фальварку. Праз дарогу за плотам маладая жанчына палола буракі. "А Вам вядомае імя Янкі Лучыны?" — "Дык вось тут жа ж іхны дом стаяў." — "Дзе?" — "Ды вось тут, дзе я буракі капаю".

Такога адказу я, далібог, не чакаў. "А хто ж Вам гэта сказаў?" — дапытваў я маладзіцу. — "Усе так кажуць". — "Дык вам не буракі, а, можа, золата капаць тут трэба". — "А, — не адрываючыся ад працы, усьміхнулася тая, — капалі ўжо. Не знайшлі нічога. Буракі надзейнейшыя".



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ

# Вялікая Беларуская Ўтопія

За 100 гадоў Беларусь ператворыцца ў моцную і квітнеючую дзяржаву. Ва ўладзе будуць кааліцыі цэнтрысцкіх дэмакратычных партыяў, складзецца адкрытае й свабоднае грамадзтва, у якім будуць паважацца правы асобы. Дзяржаўныя сымбалі – бел-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня".

Сталіцай будзе Менск-Вялікі (гэтак сёньняшні Менск назавуць за ягоную значнасьць) – буйны фінансавы, культурны й палітычны цэнтар у Эўропе. Дзяржаўнай і пабытовай мовай канчаткова зробіцца беларуская, аднак беларусы будуць ведаць і замежныя (у т.л. расейскую) мовы, з прычыны пастаянных бізнэсовых і асабістых кантактаў Беларусі з замежжам.

Зручнае геаграфічнае становішча беларусы выкарыстаюць максымальна эфэктыўна. Беларусь стане ключавым пасярэднікам паміж Эўропай (перадавымі тэхналёгіямі й фінансавымі сродкамі) і Расеяй (рэсурснай базай).

Праз гэта ўзрасьце ўплыў беларускіх палітычных колаў ва ўнутранай палітыцы Расеі, якая даўно перастане быць супэрдзяржавай. Масква згубіць свой уплыў на рэгіёны і ператворыцца ў новы Бабілён – грандыёзны мэгаполіс, які будзе жыць сваім уласным жыцьцём і ўнутранымі праблемамі. Расейскія рэгіёны будуць ува ўсім арыентавацца на Менск-Вялікі. У Расеі будзе панаваць моцнае прабеларускае лобі, таму расейскія шавіністычныя партыі будуць заклікаць да "барацьбы зь беларускім імпэрыялізмам і каляніялізмам". Сярод расейцаў распаўсюдзіцца мода размаўляць па-беларуску, гэта будзе сымбалем рэспэкту. Расейская моладзь будзе імкнуцца ў беларускія ўнівэрсытэты, а расейскія спэцыялісты – працаваць у Беларусі.

Насельніцтва Беларусі на 2101 г. складзе 20 млн. жыхароў. Рост насельніцтва зьбольшага будзе выкліканы эміграцыяй (пераважна з Расеі). Аднак эмігранты будуць называць сябе "рэпатрыянтамі", таму ў Беларусі пераважная колькасьць грамадзянаў паводле нацыянальнасьці будзе лічыць сябе беларусамі. Колькасьць праваслаўных, каталікоў і пратэстантаў будзе прыкладна аднолькавай. Прычым прыежджыя з праваслаўнага Ўсходу, каб хутчэй натуралізавацца, будуць імкнуцца перайсьці ў пратэстантызм або каталіцтва.

Адбудзецца рэнэсанс беларушчыны на Беласточчыне й Віленшчыне. У Літве беларускую мову афіцыйна прызнаюць другой дзяржаўнай. У Вільні будзе пераважаць беларускае насельніцтва. У культурным пляне Вільня будзе намагацца стварыць канкурэнцыю Менску-Вялікаму: віленскія кансэрватызм і традыцыі супраць велікаменскіх лібэртарнасьці й мультыкультуры.

Беларускія грамадзяне ў большыні сваёй будуць задаволеныя жыцьцём у Беларусі і напрамкамі яе далейшага разьвіцьця. У апазыцыі будуць толькі анархісты, аднак гэта будзе аб'ектыўна адлюстроўваць сусьветныя тэндэнцыі. Таму апазыцыйныя пратэсты й дэманстрацыі замест сёньняшніх бел-чырвона-белых будуць праходзіць пад чорна-чырвонымі сьцягамі. Аднак нішто ўжо ня здолее парушыць стабільнасьці далейшага разьвіцьця нашай краіны.

**Павал Садоўскі**

## Новы праект "Нашае Нівы"



2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якой будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Якім транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведацьмуць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Штотыдня — фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў рубрыцы "Беларусь праз 100 гадоў". З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**

# Наша Ніва 90 гадоў таму

**Менск.** Выбары ў новае земства ідуць ціха: мала хто цікавіцца гэтым. Да рускіх залічаныя немцы і татары.

**Мікола Камароўскі**

### Я люблю

Люблю наш край, старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасьце,
Сьлязу нядолі праліла.
Люблю народ наш беларускі,
І хаты ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Сум нашых гаяў і лясоў...

**Канстанцыя Буйло**
**Вішнева 25/VIII — 1910.**

**Менск.** У Менскім сіроцкім судзе выкрылася новая растрата 20 тыс. рублёў апякунскіх капіталаў; гэта сталася за час загадваньня сіроцкімі справамі Дзевачкай, Добравольскім і інш.

**Менскі беларус**

**М. Івянец, Менская губ. і павет.** Знайшлі тут у лазьні нежывога селяніна зь вёскі Скіпароўцы Марціна Мядзьведзкага, каторы за падпал будынку нейкага Бірулі быў сасланы ў Сыбір; прабыўшы там 15 гадоў, страціўшы сілы і здароўе, вярнуўся ў родны куток, каб памерці.

**1 ліпеня 1911 г.**

# Ірына Вялянкова: У гарах выразьней адчуваеш сябе жанчынай

**Беларускія альпіністы Ірына Вялянкова, Валеры Майсеенка і Алег Салавей узьнялі на вяршыні Мак-Кінлі бел-чырвона-белы сьцяг. Для Ірыны гэтае ўзыходжаньне было асабліва складаным — колькі год таму, пасьля экспэдыцыі на гару Даўлагіры (Тыбет), у выніку моцных абмаражэньняў яна страціла пальцы на нагах і часткі ступакоў. Дактары наагул сумняваліся, што яна будзе хадзіць. Прапануем чытачам "НН" гутарку зь беларускай альпіністкай.**



**"НН": Калі ўзьнікла ідэя ўзыходжаньня на Мак-Кінлі?**

**І.В.:** Размова пра гэта зайшла яшчэ ў 96-м, у інстытуце Склліфасоўскага, пасьля ампутацыі, перасадак. Расейскія журналісты бралі інтэрвію й спыталіся: калі захачу вярнуцца ў горы, на якіх вяршынях хацелася б пабыць? Я назвала Мак-Кінлі — тады нашыя каманды толькі пачалі выяжджаць з тэрыторыі СНД на найвышэйшыя кропкі іншых кантынэнтаў. Дактары, праўда, казалі, што пра горы мне трэба забыцца, але чалавек робіцца інвалідам, калі падпарадкоўваецца гэтай сытуацыі. У 99-м, па ўсіх лячэньнях і аднаўленьнях, я вырашыла, што вяртаюся ў горы. Пасьля апэрацыяў я не магу лазіць па скалах — толькі ісьці па сьнезе, лёдзе. А на Мак-Кінлі якраз адпаведныя ўмовы. Акрамя таго, я звыклася ставіць для сябе незвычайныя мэты. Я першая зь Беларусі ў 92-м паднялася на васьмітысячнік, і далей, на ўсіх узыходжаньнях, у якіх брала ўдзел, я імкнулася быць калі ня першай зь Беларусі, дык, прынамсі, першай сярод беларускіх жанчын. Часам атрымлівалася быць першай з СНД ці нават адзінай з Усходняй Эўропы. Натуральна, мне хацелася зьезьдзіць на Мак-Кінлі. Было зразумела, што я першая зь Беларусі зраблю спробу ўзыходжаньня. Ніхто з нашых мясьцінаў так далёка ня езьдзіў. Мой плян быў вельмі складаны — трэ былі грошы й кампанія. Беларускія альпіністы ўвогуле нікуды ня выяжджаюць — усё сканчаецца на ўзроўні размоваў. Самім зарабіць грошы, укласьці ў сябе — нічога гэтага ня робіцца. Я разумела, што змагу ажыцьцявіць сваю задуму толькі з кампаніяй з СНД. Усё пачалося з закупкі рыштунку, а ён вельмі дарагі. Я зарабляла грошы (працую бугальтарам), абмяжоўвала сябе ва ўсім, эканоміла. Увогуле, я зьбіралася ехаць на Мак-Кінлі ў 2000-м, аднак ніхто з СНД ня выбраўся туды. На Мак-Кінлі ходзяць з другой паловы красавіка па чэрвень — тады зьнікае разуменьне ночы, увесь час палярны дзень, цяплее.

Я змагла знайсьці каманду. Якраз тады да мяне зьвярнуліся два беларусы — Валеры Майсеенка, загадчык аддзелу ў анкалягічнай клініцы ў Бараўлянах і Алег Салавей (Гомель), які зарабляе вышыннымі работамі — яны таксама хацелі паехаць на Мак-Кінлі.

У камандзе былі яшчэ два расейцы Віктар Бабок з Масквы й Уладзімер Пушкароў з Наябрску (Ямала-Ненецкая акруга). На Мак-Кінлі мы працавалі адно на аднаго. Я — у арганізацыйным пляне, улічвала ўсе нюансы, імкнулася пазьбегнуць пралікаў, бо гэта ўсё — грошы людзей... Мужыкі, у сваю чаргу, ведалі маю сытуацыю і разьмяркоўвалі ўсю ношу паміж сабой. Уся каманда ведала, што я не магу несьці вялікі цяжар. Мой "лёгкі заплечнічак" важыў 10 кіляў.

**"НН": Нетыповая сытуацыя: жанчына — кіраўнік групы...**

**І.В.:** Плянавалася, што кіраўніком будзе Ігар Царук зь Пецярбургу, ён пачынаў дамаўляцца з амэрыканцамі, заплаціў за нас грошы са сваёй крэдытнай карткі (за рэгістрацыю ў Нацыянальным парку Мак-Кінлі) Але ён ня змог паехаць з намі, і ўсю арганізацыйную працу давялося ўзяць на сябе.

**"НН": Давайце вернемся да здарэньня на Даўлагіры: што ж там адбылося?**

**І.В.:** Падымалася я не адна, за мной ішоў мой партнэр. Аднак перад самай вяршыняй ён моцна захварэў і ня здолеў выйсьці. А я пра гэта ня ведала, бо ўжо стартавала. І ўсю дарогу на вяршыню думала, што мой партнэр ідзе дзесьці сваім тэмпам і, калі што якое, падтрымае мяне. Акрамя таго, вяроўкі, па якіх трэ было падымацца, былі павешаныя папярэднімі групамі і сягалі толькі пэўнае вышыні, а далей былі адно сьляды тых, хто ўзыходзіў раней. Гэта ўскладняла арыентацыю падчас спуску. Дый рухалася я не сваім тэмпам. Наперадзе ішоў галяндзец, значна слабейшы за мяне, а сьцежка адна, пацясьніцьабагнаць — немагчыма, дый нейкая інтэлігентнасьць, выхаваньне замінала... Я ішла нетаропка, мне было занадта камфортна, а падымацца трэба, выкладаючыся напоўніцу, каб арганізму было цяжка, у гэтым і ёсьць сутнасьць узыходжаньня. На вышыні хуткасьць пад'ёму павінна складаць 150 м па вэртыкалі ў гадзіну, а мы падымаліся недзе 100 м у гадзіну. Гэта быў значны тактычны пралік: да цемры я магла не пасьпець вярнуцца ў лягер. І ўсё ж вырашыла рызыкнуць. Тым больш, думала, што за мной ідзе партнэр — а гэта вялікая розьніца — спускацца аднаму ці ўдваіх... Падчас спуску ў цемры я некалькі разоў губляла сьляды, зрывалася, аднак спыняла падзеньне з дапамогай ледаруба. Урэшце зразумела — калі буду рухацца далей, загіну. Вырашыла спыніцца да раніцы на крутым схіле — на вышыні 8 тыс. мэтраў. Увогуле, у сусьветнай практыцы альпінізму здараліся выпадкі, калі чалавек, застаўшыся на вымушаную стаянку на спуску, нічога сабе не адмарожваў. Аднак звычайна пашуковыя экспэдыцыі знаходзілі або замерзлага, або напаўжывога, або ўвогуле не знаходзілі — чалавек зрываўся й падаў, а гэта такія вялізныя горы, што практычна немагчыма калі-небудзь што-небудзь знайсьці... Жанчыны звычайна замярзалі.

Тады я, зразумела, ня думала, што стаўлю нейкі там рэкорд па выжываньні — элемэнтарна думала як бы мне гэты вось час да раніцы ператрываць. Калі стала сьветла, пайшла далей. Спачатку, калі ішла, болю ніякага не адчувала, але калі на прыпынку зьняла абутак, пабачыла, што шкарпэткі літаральна ўмерзьлі ў ногі. Зрэшты, нас вучылі, як даваць сабе рады падчас абмаражэньняў, але не такіх цяжкіх. Лекар, які мог дапамагчы, быў толькі ў трэцім ад вяршыні лягеры. Ішла ўвесь час адна — ніхто ня мог, дый не абавязаны быў дапамагаць: на вышыні кожны найперш ратуе сам сябе.

Першую дапамогу мне аказала кваліфікаваная баўгарская лекарка, аднак рабілася гэта ў намёце, у гарах. Кропельніцу ўначы там не паставіш — раствор адразу замярзае. Яна зрабіла мне некалькі ўколаў пад скуру дзеля паляпшэньня крывазвароту, але гэтага было мала. І галоўная ейная памылка — яна пачала размарожваць мне ногі, а гэтага нельга было рабіць ні ў якім разе. Яны адталі значна хутчэй, чым аднавіўся нармальны крывазварот. Пачалася гангрэна. Мяне тэрмінова адправілі ў Маскву, у інстытут імя Склліфасоўскага. Лячыцца ў Маскве дапамагала Міністэрства аховы здароўя Беларусі, а калі цяжка стала набываць валюту, па ягонай просьбе Нацбанк рабіў для мяне выключэньне — дазваляў купляць даляры на лячэньне.

**"НН": Наколькі арганізаваная альпінісцкая справа ў Беларусі?**

**І.В.:** Беларусы ўжо шосты год зьбіраюцца на Джамалунгму, шукаюць спонсара. Так можна ўсё жыцьцё гаварыць і нічога не зрабіць. Яны ніяк ня могуць стварыць нармальную каманду. Ня ведаю, як гэта назваць — беларускі мэнталітэт ці што — не даводзяцца справы да канца, нікому нічога не патрэбна.

Няма падтрымкі ад Фэдэрацыі альпінізму — яна папросту ня мае грошай. З 96-га спорткамітэт не фінансуе альпінізму, бо гэта не алімпійскі від спорту...

Валеры Майсеенка і Алег Салавей, якія хадзілі са мной на Мак-Кінлі, зьдзейсьнілі практычна подзьвіг, бо вырваліся ўсё ж, давялі мару да выкананьня, прычым зрабілі гэта за свае грошы, улезьлі ў пазыкі.

У 92-м на Шыша-Пангму я й Эдуард Ліпень ішлі яшчэ за кошт дзяржавы, з 94-га — за свае грошы, грошы сяброў, фундатараў. Даўлагіры фінансаваў фонд Сораса, які тады яшчэ быў на Беларусі. Калі я ў больніцы апынулася, пра мяне ўсе практычна забыліся — Фэдэрацыя, спорткамітэт... А незнаёмыя расейцы, прачытаўшы пра мяне ў газэце, прыходзілі й прапаноўвалі дапамогу. І Сорас даслаў, нібы ў працяг камандзіровачных, яшчэ 1000 даляраў. Такое не забываецца. Я не крыўдую, калі не дапамагаюць, але калі дапамагаюць — не забываюся. Перад паездкай на Мак-Кінлі са мной зьвязалася спн.Палевікова з Жаночай партыі "Надзея". Яна падтрымлівала мяне маральна й арганізацыйна, а цяпер "Надзея" дапамагае мне аддаваць пазыкі.

**"НН": Навошта Вам гэта ўсё?**

**І.В.:** У гарах больш адчуваеш сябе чалавекам, усё наноснае адпадае. Пасьля першага 7-тысячніка я адчула жаданьне пахрысьціцца. І цяпер шчыра веру ў Бога. Спачатку ў галаве была мешаніна — асабліва пасьля Гімалаяў — я не магла вызначыцца паміж хрысьціянствам і будызмам. Але ўрэшце першае пераважыла.

Акрамя таго, у гарах выразьней адчуваеш сябе жанчынай. Узмацняецца жаданьне падкрэсьліваць сваю жаноцкасьць ізноў і зноў. Там, сярод мужчынаў, ты — тая самая адзіная й непаўторная. Нават касмэтыкай пачынаеш пасаблівату карыстацца, я на Мак-Кінлі парык з сабой брала... А пасьля вяртаньня ўніз лепш адчуваеш элемэнтарныя выгоды цывілізацыі, смак жыцьця.

**"НН": Ці застаецца ў Вас час на асабістае жыцьцё?**

**І.В.:** Мой занятак адбірае ў мяне амаль увесь час, кола маіх знаёмых — пераважна альпіністы. Гэта людзі з розных рэгіёнаў, паміж якімі — вялізныя адлегласьці. Ня дзіва, што мне было складана ўладкаваць свой асабісты лёс — адлегласьці забівалі нават вялікія пачуцьці. Акрамя таго, спэцыфіка альпінізму накладае адбітак на характар, узмацняе сілу волі, і сярэднестатыстычнаму мужчыну цяжка стрымліваць гэты ціск... Каб ня думалі, што я чалавек пакрыўджаны лёсам: я два разы была замужам, няма году, каб побач не было блізкага сябра. Цяпер асабістае жыцьцё ёсьць, ёсьць каму чакаць дома... Я шчасьлівая. А то ў нас людзі развучыліся быць шчасьлівымі. Трэба ўмець радавацца ўсяму, што дае лёс. Гэта зьбітыя словы, аднак суворасьць майго занятку дазваляе выдатна адчуць іх сапраўдны сэнс, дазваляе радавацца кожнаму імгненьню жыцьця.

**"НН": Бел-чырвона-белы сьцяг на вяршыні — як гэта? Гэта якія пачуцьці ў душы абуджае?**

**І.В.:** Гэта ж нармальна, калі ўздымаюць свой сьцяг. Першыя ўзыходжаньні я рабіла пад бел-чырвона-белым і не зьбіраюся мяняцца туды-сюды. Кульбачэнка на Джамалунгме паставіў чырвона-зялёны, спадзяваўся, што за гэта яму дзяржава дапаможа, але ўсё адно не дачакаў. Увогуле мы ставілі бел-чырвона-белыя сьцягі на Шыша-Пангме, на Канчэнджанзе, Даўлагіры, Мак-Кінлі. На меншых сьцягі папросту ніхто ня ставіць.

**"НН": Дзе Вашымі намаганьнямі яшчэ зьявяцца сьцягі?**

**І.В.:** Я зьбіраюся на Аканкагуа, найвышэйшую кропку Паўднёвай Амэрыкі — амаль сем тысячаў. Па кошце Аканкагуа з Мак-Кінлі прыкладна аднолькавыя, але першаснае значэньне тут маюць не фінансы, а каманда — экспэдыцыя вельмі сур'ёзная. Яна складанейшая, чым на Мак-Кінлі, нават арганізацыйна. У ЗША дзейнічае закон, створаныя ўсе ўмовы, каб палегчыць альпіністам узыходжаньне. Аканкагуа ж знаходзіцца на мяжы Чылі й Аргентыны... Дарэчы, пасьля Мак-Кінлі мною зацікавілася нашая эміграцыя — мо дапаможа разабрацца з даўгамі. Ня буду загадваць, але было б добра. Я б тады спакойна пачала рыхтавацца да наступнага праекту.

**Гутарыў Дзяніс Носаў**

***На Даўлагіры я ня думала, што стаўлю рэкорд па выжываньні. Думала, як бы да раніцы ператрываць. Калі на прыпынку зьняла абутак, пабачыла, што шкарпэткі ўмерзьлі ў ногі***



**МАРШРУТ УЗЫХОДЖАНЬНЯ НА МАК-КІНЛІ**




**ДАВЕДКА "НН"**

Гара Мак-Кінлі названая ў гонар прэзыдэнта ЗША, які даў Алясцы прывілеі, яе тамтэйшая назва — Дэналі. За гэты год зарэгістраваных на ўзыход на яе было 1301, зрабілі спробу 537, узышлі толькі 128, сярод іх — тры беларусы.

# Ці давядзе Лукашэнка беларускую гаспадарку да краху?



Валеры Булгакаў

**Передвыбарная кампанія Аляксандра Лукашэнкі вызначаецца размахам — тут табе і зьезды ў мармуровых залях, і палёты ў Маскву і Ерэван, і візыты дарагіх зорак — ад таварыша Цзэміня да пана Пуціна, і раздача Герояў дырэктарам, і дарэньне гінэкалягічных цэнтраў жанчынам сталіцы, і ратаваньне айчыннага кінэматографу, і запуск падстаўных кандыдатак з наступным гістэрычным зьняцьцём, і ўвядзеньне ў дзеяньне новых станцый менскага мэтра, і прыцягальны для беларускіх выбарцаў сямейны канфлікт зь беглым алігархам Ванем Ціцянковым. Іншыя кандыдаты ў гэтым яму не даraўнаюцца.**

Але пры гэтым Лукашэнка, як і сем гадоў таму, ня грэбуе зарабляць палітычныя дывідэнды на дробных антыкарупцыйных скандалах і абяцаньнях "запусьціць заводы". Ролю другога цяпер адыгрывае прапаганда посьпехаў беларускай прамысловасьці.

Лукашэнку падабаецца нацягваць на сябе маску эканаміста (так ён сам сябе ахарактарызаваў у заяве, пададзенай у Цэнтравыбаркам). Ён лічыць бізнэс-эліты найбольшай патэнцыйнай небясьпекай для створанага ім рэжыму і таму што ёсьць сілы імкнецца паказаць сябе гарантам іх будучага *працьвітаньня*, заручыцца іх падтрымкай. Ён сустракаецца з удзельнікамі Эканамічнай рады СНД і не шкадуе цёплых словаў для яшчэ нядаўна "вашывых" пераможцаў конкурсу "Найлепшы прадпрымальнік 2000 г.": "Прадпрымальнікі — гэта людзі, якія ствараюць асноўныя вартасьці ў нашым грамадзтве, у нашай дзяржаве".

Передвыбарная кампанія Лукашэнкі накіраваная на шырокія слаі беларускага грамадзтва — і на аматараў кіно, і на зацікаўленых у паляпшэньні жытловых варункаў, і на прыхільнікаў інтэграцыі з Расіяй і барацьбы з карупцыяй, і на работнікаў буйных прадпрыемстваў ды бізнэсоўцаў. Ну і, канечне, тутэйшых носьбітаў "праваслаўнай духоўнасьці".

Лукашэнкаўская кампанія можа быць узорам для іншых кандыдатаў, бо ён мабілізаваў найбольшую колькасьць матэрыяльных і людзкіх рэсурсаў. А таксама таму, што Лукашэнка імкнецца ствараць уражаньне палітыка, які рэальна кансалідуе беларускае грамадзтва.

## УТАПІЧНАЯ ДУМКА ВЯЧОРКІ

Апазыцыі пакуль рэдка калі хапае на такі напор. Відаць, таму Вінцук Вячорка падчас праведзенай ім пры канцы чэрвеня ў Віцебску прэс-канфэрэнцыі дапусьціў, што Лукашэнка можа перамагчы на восеньскіх выбарах, але тады рэжым пратрымаецца ад сілы годпаўтара — ягоны хуткі крах непазьбежны ў выніку расколу ў асяродзьдзі намэнклятурных работнікаў і эканамічных чыноўнікаў.

Такая палітычная нізкавокасьць агулам характэрная для асяродзьдзяў беларускай апазыцыйнай інтэлігэнцыі. Той самы прагноз можна прачытаць у звароце Зянона Пазьняка да выбарцаў у артыкуле газэты "*Московский комсомолец*", падрыхтаваным з дапамогай "Хартыі'97". Згадваецца, як Алег Трусаў яшчэ ў 1996 г. у інтэрвію "НН" прадказваў, што Лукашэнка пратрымаецца ўва ўладзе ад сілы год-два. Рэальнасьць зьняпраўдзіла ўсе гэтыя прагнозы.

Недарэчнасьць такога кшталту разважаньняў падвойная: па-першае, яны выклікаюць апатыю ў стане дэмакратаў (маўляў, мы так многа зрабілі, што цяпер можна і адпачыць — Лукашэнка сам хутка галаву сабе скруціць), па-другое, імі памылкова акрэсьліваецца крыніца галоўнай небясьпекі для лукашэнкаўскага рэжыму — у разуменьні Вячоркі, гэта фактычна вышэйшыя аддзелы дзяржаўнага апарату. Калі выказаць тэзу В.Вячоркі ясьней, дык: эканамічныя інтарэсы беларускай намэнклятуры маюць настолькі разысьціся з лукашэнкаўскай эканамічнай палітыкай, што адзінай зарукай іх пасьпяховай рэалізацыі неўзабаве стане адхіленьне Лукашэнкі ад улады.

Апазыцыйная інтэлігенцыя часта ня бачыць, што лукашэнкаўскі рэжым, які ён ёсьць, — гэта спараджэньне вышэйшай беларускай намэнклятуры. Гэты рэжым цягам усяго свайго існаваньня выконваў ад пачатку ўскладзеную на яго асноўную функцыю — кансэрваваў паўсталыя пасьля распаду СССР адносіны ўлады і ўласнасьці ў Беларусі. Больш за 80% маёмасьці дагэтуль знаходзіцца ў дзяржаўнай уласнасьці — г.зн., фактычна належыць той самай беларускай намэнклятуры, якая прывяла да ўлады Лукашэнку (адпаведна, зьмяненьне адносінаў уласнасьці немінуча пацягнула б за сабой зьмяненьне балянсу ўлады; акурат таму Лукашэнка да апошняга супрацьдзейнічае перадзелу стасункаў уласнасьці ў Беларусі, нават прыходу расійскага капіталу на беларускі рынак). Да таго ж, адхіленьне Лукашэнкі ад улады магло б выклікаць непрадказальныя і непажаданыя для намэнклятуры структурныя трансфармацыі палітычнай сыстэмы.

**100$ ШТОМЕСЯЦ — ГЭТА МНОГА ЦІ МАЛА ДЛЯ ЎСХОДНЯЙ ЭЎРОПЫ?**

**Нямала. Сярэдні румын атрымлівае ў месяц 75$, сярэдні баўгар — 100, сярэдні сэрб — 70, сярэдні ўкраінец — 60$. У Расіі заробак настаўніка з вышэйшай адукацыяй і стажам працы 20 гадоў і больш складае 875 расійскіх рублёў (прыкладна 26$), а заробак настаўніка-пачаткоўца — 500 расійскіх рублёў (каля 15$). І гэта пры тым, што сярэдняя зарплата прамысловага работніка сягае 3800 расійскіх рублёў (блізка 130$)!**

Такім чынам, створаны Лукашэнкам рэжым у вызначаны Вячоркам тэрмін можа разваліцца толькі ў выніку *народнага паўстаньня* або *эканамічнага краху* (магчымасьці вайсковай інтэрвэнцыі, агульнанацыянальнага стыхійнага бедзтва і інш. трэба выключыць). Пэрспэктыва народнага паўстаньня або маштабных сацыяльных катаклізмаў у азначаны пэрыяд з пазыцыі сёньняшняга дня здаецца ўтапічнай. Калі сьледам за Вячоркам дапусьціць, што Лукашэнка пераможа на восеньскіх выбарах, то ўжо гэтая падзея дасьць "бацьку" гэткі "крэдыт даверу" ад беларускага народу, які ён наўрад ці пасьпее вытраціць да восені-зімы 2002—2003 г. Больш за тое, Лукашэнка даўно і трывала зарэкамэндаваў сябе як майстра сацыяльнага папулізму, у якога ёсьць немудрагелістыя і даступныя адказы на самыя злабадзённыя пытаньні беларусаў. Безаглядны папулізм Лукашэнкі прымушае яго апэратыўна адгукацца на надзённыя клопаты простых беларусаў. Апошняе, дарэчы, варта было б пераняць і кандыдатам ад дэмакратычнага блёку, у чыіх разрэклямаваных у СМІ іміджах нярэдка зашмат халоднай адстароненасьці і замала жывой чалавечнасьці. Можна з пэўнасьцю сьцьвярджаць, што пераможцам Лукашэнкі будзе палітык, здольны адчуць біцьцё кожнага беларускага сэрца.

## ЭКАНАМІЧНЫ КРАХ БЕЛАРУСІ НЕ ПАГРАЖАЕ

Эканамічны крах Беларусі таксама ў найбліжэйшы час не пагражае. Натуральна, у беларускай камандна-адміністрацыйнай эканоміцы назіраюцца шматлікія крызісныя зьявы і тэндэнцыі, якія Лукашэнкава абяцаньне давесьці сярэднюю заработную плату да 100$ узмацніла.

Табліца 1 паказвае, якую цану беларускай эканоміцы даводзіцца плаціць за папулісцкія абяцаньні Лукашэнкі. Зьмяншэньне капітальных укладаньняў, істотнае запаволеньне жытловага будаўніцтва, павелічэньне колькасьці беспрацоўных, сьведчаць аб спадзе справовай актыўнасьці ў Беларусі. Стодаляравы заробак ад Лукашэнкі таксама аплачаны беспрэцэдэнтным падзеньнем беларускага імпарту.

Апрача гэтага, у першым квартале г.г. паводле афіцыйных зьвестак прырост валавага ўнутранага прадукту (ВУП) склаў 1%, а паводле ацэнак шэрагу незалежных экспэртаў ВУП увогуле зьнізіўся на 3%. За студзень–люты вытворчасьць спажывецкіх тавараў зьменшылася на 2,5%, у тым ліку прадуктаў харчаваньня — на 5,3%. Са студзеня да ліпеня рост цэнаў у Беларусі склаў больш за 20%. За студзень—красавік адбылося зьмяншэньне памеру статутных фондаў банкаў на 6,4%. Унутраны дзяржаўны доўг толькі за першы квартал павялічыўся на 17,2% (прыкладна на 365 млн. даляраў), без уліку крэдытаў пад гарантыі ўраду.

Нягледзячы на ўсе запэўніваньні Лукашэнкі, што нарэшце нам удалося выйсьці на ўзровень "дакрызыснага" 1990 г., у 2001 г. вытворчасьць прамысловых тавараў склала адно 88% ад узроўню 1990 г. Затое толькі за мінулы год імпарт тавараў лёгкай прамысловасьці вырас на 16,7%, аб'ём экспартаваных у краіну прадуктаў харчаваньня ўзрос на 34%.

Лявінападобна расьце доля стратных прадпрыемстваў. У лёгкай прамысловасьці яна дасягае 33%, у харчовай — 15%, у цэлым па прамысловасьці — 21%. Больш за палову з 2543 беларускіх калгасаў і саўгасаў стратныя, штомесяц на датацыі для аграпрамысловага комплексу выдаткоўваецца каля 20 млрд. рублёў.

## 100$ — ЦЯЖАР ДЛЯ ГАСПАДАРКІ

На фоне падзеньня асноўных эканамічных паказьнікаў дэфіцыт у гандлі з Расіяй дасягнуў рэкорднай адзнакі — 1 млрд. 700 млн. даляраў ЗША.

Таму, хоць зарплата расьце, а больш як 40% беларусаў па-ранейшаму знаходзяцца за рысай беднасьці.

Беларуская гаспадарка — гэта тыповая для Ўсходняй Эўропы пераходная эканоміка, якая на пачатку рынкавых трансфармацый валодала някепскім патэнцыялам і ня страціла яго да канца і цяпер. Яшчэ ў падрыхтаваным у 1990 г. аналітыкамі *"Deutsche Bank'y"* індэксе пэрспэктываў разьвіцьця савецкіх рэспублік Беларусь атрымала высокія балы — 8 за ўзровень індустрыялізацыі і 6 за разьвіцьцё інфраструктуры.

**Гады лукашэнкаўскага кіраваньня былі чаргаваньнем непасьлядоўнай, палавіністай лібэралізацыі гаспадарчай дзейнасьці і крутых адкатаў назад, да яе гіпэррэгуляцыі з боку дзяржавы. Што ж адбывалася ўвесь час — суб'екты гаспадараньня пастаянна былі закладнікамі палітычных амбіцый беларускага кіраўніцтва. Таму аздараўленьне беларускай эканомікі магчымае толькі пры карэкцыі палітычнага курсу нашай дзяржавы. Але як хутка прыйдуць да ўсьведамленьня гэтага беларускія эканамічныя эліты, гаварыць яшчэ рана. На жаль, кандыдаты антылукашэнкаўскага блёку замала ўвагі надаюць абароне інтарэсаў тых, хто вызначае палітыку краіны — кіраўнікоў прадпрыемстваў і бізнэсоўцаў. Такім чынам, яны ўвесь час апынаюцца без сацыяльнай базы і песьцяць дарэмныя надзеі, што рэжым вось-вось ґахісьнецца сам сабой.**

**Эканамічны крах Беларусі не пагражае. Тое, што назіраецца ў краіне апошняе дзесяцігодзьдзе — гэта незаўважнае, але няўхільнае спаўзаньне ў эканамічнае недаразьвіцьцё, якое, нягледзячы на ўсю лукашэнкаўскую пыху і пераможныя рэляцыі БТ, робіць зь Беларусі дзяржаву другога гатунку, безабаронную перад галодным Усходам і вечна абражаную на багаты Захад. Толькі сыход Лукашэнкі можа зьмяніць эканамічны курс краіны.**

**Табліца 1 Некаторыя сацыяльна-эканамічныя паказьнікі за студзень-травень 2001 г.**

| | Студзень–травень 2001 г. | У % да гэтага ж пэрыяду 2000 г. | Травень 2001 г. у % да | |
|---|---|---|---|---|
| | | | траўня 2000г. | красавіка 2001г. |
| Інвэстыцыі ў асноўны капітал, млрд.руб. | 804,1 | 97,7 | 110,2 | 114,3 |
| Увод у дзеяньне жылых дамоў, тыс.кв.м агульнай плошчы | 910 | 79,4 | 79,5 | 155,6 |
| у тым ліку на вёсцы | 300 | 74,3 | 78,6 | 153,3 |
| Грузаабарот прадпрыемстваў транспорту агульнага карыстаньня [1], млн.ткм | 13068,0 | 90,9 | 99,4 | 102,5 |
| Колькасьць беспрацоўных, афіцыйна зарэгістраваных у органах дзяржаўнай службы занятасьці (на канец справаздачнага пэрыяду), тыс.чалавек | 100,7 | 107,4 | 107,4 | 98,1 |
| у % да эканамічна актыўнага насельніцтва | 2,3 | | | |
| Індэкс спажывецкіх цэнаў | | 119,9[2] | 171,6 | 102,6 |
| Індэкс цэнаў вытворцаў прамысловай прадукцыі | | 115,5[2] | 195,2 | 100,8 |
| Замежнагандлёвы абарот[3], млн.дал.ЗША | 4666,7 | 93,2 | 86,7 | 92,5 |
| экспарт тавараў | 2375,1 | 103,7 | 96,2 | 95,7 |
| імпарт тавараў | 2291,6 | 84,4 | 78,4 | 89,4 |
| сальда | 83,5 | | | |
| Рэальныя грашовыя даходы насельніцтва | | 123 | 123 | 101 |
| Рэальная налічаная сярэднемесячная зарплата аднаго работніка | | 122,7 | 127,9 | 100,5 |

1) Без унутранага воднага транспорту.
2) Канец пэрыяду да сьнежня 2000 г.
3) Без уліку паслугаў.

Крыніца: Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі.

Юрась Бушлякоў

Чэславу Мілашу — 90

# Аўтарытэт

Паэт, ляўрэат Нобэлеўскае прэміі (1980) Чэслаў Мілаш нарадзіўся на Віленшчыне, у Шатэйнях, гадаваўся ў Літве. Пасьля быў сьвет польскае цывілізацыі, незьлічоныя падарожжы праз кантынэнты — Эўропу й Амэрыку. "Калі б спыталіся ў мяне, адкуль паходзіць мая паэзія, я адказаў бы: зь дзяцінства, з калядных песьняў, зь літургіі й травеньскіх набажэнстваў, таксама як і зь Біблії", — чытаем у Мілашавай духоўнай біяграфіі — рэлігійна-літаратурным эсэ "Зямля Ульра".

З 1945-га Мілаш на дыпляматычнай службе. Камуністы ахвотна хваліліся тады сваімі інтэлектуаламі. У дыпляматычных прадстаўніцтвах Польшчы працавалі Юльян Пшыбась, Тадэвуш Брэза, Ежы Путрамант. Мілаш пагадзіўся на працу ў польскім консульстве ў Нью-Ёрку. Праз год яго прызначылі культурным аташэ пры пасольстве — ён перабраўся ў Вашынгтон. Там стварыў "Маральны трактат", фактычна паэтычны начырк да напісанага пазьней прозаю "Зьняволенага розуму" — кнігі-перасьцярогі з выпадку таталітарызму.

Летам 1949-га Мілаш прыехаў на нейкі час у Польшчу. Гасьцяваньне пазбавіла яго ілюзіяў і прысьпешыла маральны выбар. Паэтаў успамін пра гэта ўвайшоў у кнігу Рэнаты Гарчыньскай "Падарожны сьвету":

"Я належаў тады да ліку людзей, што былі на вельмі добрым рахунку, людзей добра ўбраных, якім добра жылося, напросту да эліты, якая кіравала Польшчаю. Я браў удзел у прыёме, дзе пілі, танцавалі — акурат у тых "найвышэйшых сфэрах". Мы вярталіся перад сьвітаньнем, гадзіне а чацьвертай — лета, але гэта была халодная ноч. І я ўбачыў джыпы — вязьлі арыштаваных. Салдаты, тыя ахоўнікі, былі ў кажухох, а вязьні — у пінжаках з паднятымі каўнярамі — трэсьліся на холадзе. Тады я выразна зразумеў, у чым бяру ўдзел".

Ад запрашэньня на чарговы варшаўскі раўт Мілаш адмовіўся. У яго забралі дыпляматычны пашпарт. "Калі Мілаш прыехаў у Кракаў, мяне акурат не было, — прыпамінаў пазьней польскі празаік, публіцыст і кампазытар Стэфан Кісялеўскі. — Жонка папыталася, ці ён не баіцца, што яго тут затрымаюць. "Як гэта, — рэагаваў Мілаш, — дык ты пацьвярджаеш, што гэта здараецца?" — "Ясна, гэта абсалютна магчыма", — адказвала жонка. Ён так жахнуўся, што бегма паехаў у Варшаву, там спаткаў Путраманта, які сказаў: "А ведаеш, у нас дачынна цябе іншыя намеры. Ты, пэўне, ужо ня выедзеш". Ну дык тады ён страціў раўнавагу. Ведаў, што скончыцца ўсё фатальна. Паехаў да Мадзалеўскага, міністра замежных справаў. Мадзалеўскі ручаўся, што ён вернецца. Мілаш паехаў і не вярнуўся".

Ён паехаў тады ў Парыж. Пасяліўся ў Мэзон-Ляфіце ў Ежага Гедройца. У лютым 1951-га папрасіў палітычнага прытулку.

Выбраўшы эміграцыю, з саюзьніка паэт стаўся для камуністычных уладаў калі ня ворагам, дык прынамсі непажаданаю фігураю. І так блізу 30 год. Мілаша, былога польскага дыпламата, у Народнай Польшчы амаль не друкавалі, дзеяла адначасна й забарона пра Мілаша што-колечы пісаць. Яшчэ за сталінскіх парадкаў цэнзура ўявіла была запіс, які папросту абавязваў забыцца на паэтава прозьвішча. ПНРаўскія крытыкі, праўда, часта выкручваліся: менавалі Мілаша то аўтарам "Уратаваньня" — такі загаловак меў выдадзены ў Польшчы адразу па вайне паэтаў зборнік, то "польскім паэтам, які вучыўся права ў віленскім унівэрсытэце Сьцяпана Батуры". Некантраляваную магчымасьць ліквідаваць прагалы й сплачваць Мілашу свае даўгі крытыкі й журналісты ў Польшчы займелі адно ў 80-х — нобэлеўскае ляўрэацтва Мілашава сталася фактам і фактарам у гісторыі краху камуністычнага рэжыму ў Польшчы.

Ганаравалі паэта, паводле фармулёўкі Нобэлеўскага камітэту, за "бескампрамісную ўвагу да пагроз чалавеку ў сьвеце, поўным гвалтоўных канфліктаў".



"Калі казаць пра маё жыцьцё, то вельмі каштоўнай для мяне была маладосьць у Вільні. Адчую вялікую палёгку, калі Вільня перастала быць аддзеленая ад сьвету гермэтычнай мяжою. Не азначае гэта, аднак, што хачу ці павінен туды часта езьдзіць. Дастаткова ведаць, што Вільня зараз так блізка Эўропы, як была калісь. Нават тыя, хто сёньня едуць туды, падкрэсьліваюць, што ёсьць штосьці магічнае ў яе аўры. Маладосьць у такім месьце - скарб на ўсё жыцьцё, хоць, перажываючы гэта, чалавек не разумее, як гэта незвычайна".

*З інтэрвію польскаму часопісу "Polityka"*

"Не зайздрошчу крытыкам, якія будуць пра мяне пісаць, бо граў я на вельмі многіх фартэпіянах", — папярэджвае Мілаш у памянёнай "Зямлі Ульра".

Крытыкі лічаць ролі, ім выкананыя, яму падуладныя. Ёсьць Мілаш — найчысьцейшы лірык і Мілаш — грамадзянін і мараліст, нат філёзаф, што выдае сакрэты свайго часу. Ёсьць Мілаш — містык, катастрафіст, ёсьць Мілаш — паэт, які складае па-старасьвецку оды "на славу адданым зоркам сэзонаў". Іншым разам Мілаш — іранічны рацыяналіст, паэт, які піша "простаю моваю". "Мая паэзія не смуткуе аб існаваньні. Наадварот, мая паэзія — пахвала існаваньня, пахвала красы існаваньня", — падагульняе ў прынагодным, пад 90-годзьдзе, інтэрвію *"Rzeczpospolitej"* сам юбіляр.

Ён па-ранейшаму жыве пераважна ў Каліфорніі, у Бэрклі, у мясьціне зь відалю на Ціхі акіян, фактычна ў найдалейшым ад нас пункце Захаду. На пачатку семдзесятых ён напісаў там верш "Дар". Як сам цяпер прызнаецца, верш абсалютна пагодны, зацішны: прымірэньне з жыцьцём, адрыў ад усякіх турботаў. І, тым ня менш, як заўважылі Мілашавы крытыкі, у гэтым вершы ёсьць усё зло XX ст., як бы схаванае за паэтычнымі радкамі.

***ДАР***

Дзень удаўся шчасьлівы.
Туман расьсеяўся рана, я працаваў у гародзе.
Калібры ўзьляталі над кветкаю капрыфолю.
Не было на сьвеце рэчы, якую хацеў бы я мець.
Ня ведаў нікога, каму варта было б пазайздросьціць.
Што кепскага здарылася, забыў.
Не пасаромеўся думаць, што быў я і хто я.
Не адчувалася ў целе ніякага болю.
Прастаўшыся, бачыў блакітнае мора ды ветразь.

***(пераклад А. Хадановіча й Ю. Бушлякова)***

"Чэславу Мілашу я веру", — напісаў быў Сакрат Яновіч. Яновіча Мілаш цікавіць сваёй інтэлектуальнаю заглыбленасьцю, імкненьнем да аб'ектывізму. І Яновічу, і ўсім нам Мілаш можа быць патрэбны як чалавек, у якога шмат сэрца да беларусаў. Як чалавек, які ад прыроднае свае сумленнасьці адчувае патрэбу гаварыць пра беларускія правы й інтарэсы. Мілаш, як ведама, лічыць сябе патомным грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага. Ягоны патрыятызм — ці раз пра гэта пісалі — блізкі Міцкевічавай формуле: паляк, але й ліцьвін.

У 97-м Мілашаву постаць паэзіяй ды эсэістыкаю паказаў часопіс "Крыніца". Неўзабаве па выхадзе нумару нadарыўся ў Варшаве выпадак прэзэнтаваць паэту гэныя фрагмэнты беларускага прачытаньня ягоных твораў. Я загаварыў і паказаў часопіс, выясьняючы, што гэта па-беларуску. "Чыя ж можа быць яшчэ "Крыніца" — ясна, што беларуская", — адказаў ён адразу, акуратна падзякаваўшы за мой сьціплы гасьцінец.



"Я баюся выказваць судженьні, што могуць стацца афарызмамі. Я ўжо стары, маю 90 гадоў і з вышынь майго досьведу бачу вельмі многа. Не хачу быць якімсь гуру, які выдае інструкцыі. Але ўсё жыцьцё я шукаў сапраўднае мастацтва, бунтуючы супраць таго, што мяне атачала".

*З інтэрвію польскаму часопісу "Polityka"*

Чэслаў Мілаш

# Пра выгнаньне



Стары анэкдот пра ўцекача як і раней захоўвае сэнс: "Уцякач са зьнявечанай вайною Эўропы шукае кантынэнт і краіну, дзе можна жыць як мага даўжэй без асаблівага клопату. Ён у задуменьні круціць пальцам глёбус і нарэшце пытаецца: "А нічога іншага вы ня маеце?"

...Выход людзей з родных мясьцінаў — адметная рыса нашага стагодзьдзя. Людзі пакідаюць радзіму, бо там цяжка выжыць.

Той, хто шукае шчасьця ў іншых краях, павінен быць гатовы да расчараваньня, а мо нават да сумнеўнага задавальненьня трапіць з гаручага ды ў балючае.

З усіх бедаў выгнаньня страх перад невядомым — бадай, самы пакутны. Выгнаньне пазбаўляе нас сыстэмы каардынатаў, якая дапамагае будаваць пляны, ставіць мэты... У сябе дома кожны зьвязаны са сваімі папярэднікамі: пісьменьнікамі, мастакамі — зьвязаны захапленьнем або спаборніцтвам. Намі рухае жаданьне зрабіцца роўнымі ім, так ці інакш перасягнуць іх, каб дадаць сваё імя да тых, каго ўжо паважаюць у нашай вёсцы, месьце, краіне. А тут, за мяжою, мы выкінутыя з гісторыі, бо ў кожнага яна — свая...

Адзіны спосаб ня страціць арыентацыі — гэта наноў усталяваць свае поўнач, усход, захад і поўдзень, каб ужо ў новай прасторы знайсьці месца свайму Віцебску ці Дубліну, узьведзеным у іншую ступень.

Выгнаньне — гэта ня проста перасячэньне мяжы, яно высьпявае ў табе, мяняе цябе ўсярэдзіне і робіцца тваім лёсам. Аднастайная маса чалавечых твараў, брукаванак, манумэнтаў, зьменаў моды і звычаю набывае выразны малюнак, чужое паціху ператвараецца ў собскае. Але тапаграфію твайго мінулага памяць усё-ткі захоўвае, і з-за гэтай падвойнай прыналежнасьці ты ніколі ня станеш такім самым, як тыя новыя суайчыньнікі... Бо чалавека бяз памяці наўрад ці можна лічыць чалавекам...

Жыцьцё ў выгнаньні сёньня ня зводзіцца да пераезду з адной краіны ў другую. Адчужанасьць сёньня — не хвароба якойсь адасобленай катэгорыі людзей, а наканаваньне шмат а шмат каго, такім чынам, у эмігранта, калі падумаць, няма прычын бедаваць над сваім лёсам...

Выгнаньне — гэта досьвед унутранай свабоды, а свабода пужае. Свабода выгнаньня — такога самага высокага гатунку, толькі яна навязаная звонку і таму пазбаўленая патасу. Вынік бараць бы з нашаю ўнутранаю слабасьцю цалкам зьмяшчаецца ў ёмістую формулу: выгнаньне зьнішчае, але калі ты ня даў сябе вынішчыць, будзеш дзякуючы яму шматкроць мацнейшым...

А праўда, наша жыцьцё зноў а зноў узнаўляе тое, першае выгнаньне з райскага саду, і ня важна, ці будзе гэты сад улонным маці ці дрэвамі маленства, што зачароўваюць вока...

Біблійны вобраз падштурхоўвае да абыходкавага меркаваньня, быццам жыцьцё ў выгнаньні — значыць раз-пораз вяртацца паглядам у тыя мясьціны, што пакінуў.

Наша зямля з усёй сваёй прыгажосьцю ды чарадзействам — гэта зямля "выгнаньнікаў з Раю".

## Бібліяграфія перакладаў Чэслава Мілаша на беларускую мову


1. **Вершы** (пер. А.Мінкін) //Далягляды'92, Менск, 1992.
2. **"Дзіця Эўропы"** (пер. А.Хадановіч, М.Раманоўскі) // Фрагмэнты, №5, 1998.
3. "Campo di Fiori", "Песьня пра парцаляну", "Ня больш". Пер. Ю.Бушлякоў, А.Хадановіч; "У Варшаве", "Песьня пра канец сьвету", "Прадмова" (пер. А.Хадановіч) // ARCHE, №2, 1998.
4. "У Шатэйнях", "Асот, крапіва", "Ты, хто пакрыўдзіў", "Павінен, не павінен", "Ня болей", "Алену Кінсбэргу", "Сьведчаньне паэзіі. Паэты і сям'я людзей" (пер. Ян Чыквін). "Мая верная мова", "Задача", "Ня так", "Дар", "Прызнаньне" (пер. Ю.Бушлякоў, А.Хадановіч). "Так мала" (пер. Алесь Разанаў). "Лекцыя біялегіі" (пер. Ю.Бушлякоў) // Крыніца, №7(33), 1997.
5. **"Прыдарожны сабачка"** (пер. Ю.Бушлякоў) // "НН", №9(130), 17 траўня 1999 г.
6. **"Дастаеўскі і Сартр"** (пер. А.Хадановіч) // ARCHE, №1, 2000.
7. Чэслаў Мілаш **"Скуты розум"** (пер. Ю.Лаўрык, З.Дзядзенка). Менск–Вільня: "Фрагмэнты–Віленскі клюб", 2000.

# Штучны сьнег

## *Зацемкі*

**1.**

Небарака Рыгоравіч! Газэты зьмясьцілі без камэнтараў: АРЛ сабраўся ўлетку бегчы на лыжах ад Круглай плошчы да помніка Леніну — няхай, маўляў, незалежная мэдэкспэртыза спраўдзіць — хто самы здаровы з прэтэндэнтаў на прэзыдэнцкае крэсла. А, па-мойму, нічога незвычайнага. Па сталінскай традыцыі, 3 ліпеня на парадзе які ўжо год рушаць спартоўцы. Тыя ж лыжнікі, біятляністы. Хто імітуе язду па сьнезе, хто, можа, на якіх ролікавых лыжах гойсае. Вось для Рыгоравіча і няма розьніцы — што зіма, што лета, бо лыжнікі ўздоўж трыбуны ўсё адно рухаюцца.

Альбо, калі ёсьць штучны лёд — столькі палацаў набудавана, — дык чаму ў нашай краіне немагчымы штучны сьнег? Уяўляеце: зьбіраецца строгае міжнароднае журы — з удзелам Самаранча, Віка, Барадзіна, Кофі Анана і гэтак далей, а Скарынаўскі праспэкт засыпаюць штучным сьнегам. І — гайда хлопцы! Аляксандар Рыгоравіч Лукашэнка — пад нумарам першым! — захлынаецца ад захапленьня камэнтатар Навіцкі. Сьледам, зь вялікім адрывам, Гайдукевіч, Машэрава... Урэшце, варта ведаць сваю гісторыю. Радзівілы ж калісьці езьдзілі ў санках улетку! Ніхто іх за гэта дурнямі не называў, толькі самадурамі. Столькі солі высыпалася на дарогу! Штучнага сьнегу тады не было. Затое сяляне маглі ўзяць бясплатнай солі. Менчукі таксама штучнага сьнегу змаглі б атрымаць, я думаю. Улада напярэдадні выбараў усё раздае шчодра — стыпэндыі, танныя кватэры, здароўе, шчасьце і іншыя даброты, ад якіх адмовіцца цяжка.

**2.**

Лінія фронту. Штаб фронту. Эшалянаваная аброна. Яшчэ нядаўна савецкае кіно і кнігі былі пераважна пра гэта. Людзі, якія экранізавалі "У жніўні 44-га", забыліся, напэўна, што пра чырвоную-савецкую армію існуе тысяча й адзін фільм. БТ, нашае непераўзыдзенае БТ абвяшчае прэм'ерны паказ экранізацыі "44-га жніўня", па-рэклямнаму навязьліва паўтараючы, што зьняты фільм "пад патранатам" знаўцы кіно Аляксандра Рыгоравіча. А значыцца, маўляў, посьпех забясьпечаны.

Разрэклямаваная экранізацыя атрымала ўсяго толькі прыз другога аматара кіно — Пуціна, які нават не прысутнічаў на фэстывалі. Прафэсіяналы праігнаравалі "Жнівень". Спазьніліся ягоныя аўтары гадоў на 20 з экранізацыяй. Затое якраз трапілі са сваёй прапановай на палітычную кухню АРЛ.

**3.**

Гэтым разам лінія фронту супала зь дзяржаўнай мяжою. Дзесьці рабіліся ўяўныя мінныя палі, нацягваўся калючы дрот, жаўнеры рылі акопы... На суседнюю украінскую тэрыторыю заехаў "вораг". Чый вораг? Вораг Алексія II. А мы тут пры чым? А пры тым, што ворагаў для нас вызначае Рыгоравіч. Ён — як бы намесьнік Алексія па палітычнай частцы ў Рэспубліцы. Дзікунства ўсё гэта, адгалоскі халоднай вайны. Толькі замест азызлых савецкіх маршалаў уздоўж межаў езьдзіць Рыгоравіч з царкоўнымі ярархамі.

> ***Зьбіраецца строгае міжнароднае журы — з удзелам Самаранча, Віка, Барадзіна, Кофі Анана і гэтак далей, а Скарынаўскі праспэкт засыпаюць штучным сьнегам. І — гайда хлопцы! Аляксандар Рыгоравіч Лукашэнка — пад нумарам першым! — захлынаецца ад захапленьня камэнтатар Навіцкі.***

І з другога боку — мяккі, чалавечны твар Папы Рымскага. Людзкія яго словы, заклікі да паяднаньня ўсіх людзей. А не амаль расісцкія развагі пра нейкую ўяўна-выключную місію славянаў, пра іхную "вядучую ролю ў маральным аднаўленьні сьвету". Божа ж мой, і людзі ўчарашняга дня спрабуюць адрадзіць духоўнасьць, выкарыстоўваючы нават хлусьню. 80% беларусаў — праваслаўныя?! Ды хутчэй 80% — атэісты! Палічыце, колькі людзей верыць у Бога, колькі наведваюць тыя праваслаўныя цэрквы! І пры гэтым відавочнае неразуменьне сытуацыі. Алексій і Папа Рымскі — постаці рознага ўзроўню. Першы — як бы кіраўнік міністэрства рэлігіі суседняй дзяржавы. Другі — галава невялікай, але вельмі ўплывовай у сьвеце дзяржавы Ватыкан. Нездарма нават сябра АРЛ — Фідэль, якому зусім не патрэбныя былі масавыя вулічныя набажэнствы, гэтак дамагаўся прыезду Яна Паўла II на Кубу.

АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**4.**

Ці памятаеце тэлесэансы доктара Кашпіроўскага? Штосьці ён такое прыемнае гаварыў, лагоднае, станоўчае. Ня буду тут узгадваць зусім супрацьлеглыя выступы Рыгоравіча. Толькі згадаю супэргіт БТ, называны ў народзе "тайнымі спружынамі прэзыдэнцкага матрацу". Там паказваюць розныя жахі: вядзьмаркі вараць атруту, чэрці скачуць, варушыцца кубло гадаў... А голас за кадрам распавядае ўсякую лухту пра непрыхільнікаў АРЛ. Цяжка зразумець, ці гэта паказваюцца жудасныя сны Рыгоравіча, ці гэта — мроі саміх аўтараў? Напэўна, аўтары пачалі зьвяжджаць з глузду . Але самае жахлівае, што іхная мэта — запалохаць, зьбіць з тропу гледачоў, каб у тых "дах паехаў".

У самай пісьменьніцкай кнігарні сталіцы вы ня купіце партрэта пісьменьніка. Ні Янкі Купалы, ні Шэксьпіра. А вось Рыгоравіча — колькі хочаш! Розных памераў і заўжды танна. І гэтак у кожнай кнігарні — дзяржаўнай ці прыватнай, па ўсёй Беларусі. У адной гарадзенскай партрэты АРЛ — на паліцы побач з мастацкімі альбомамі — Рэмбрандт, Пікасо. Праўда, тут жа і кніга аб тэхніцы сэксу — са сплеценымі целамі на вокладцы. Карацей — самыя бэстсэлеры.

**5.**

Чытаю віншаваньне "дарагім землякам" ад гарадзенскіх аблвыканкаму, аблсавету, гарвыканкаму і гарсавету і вачам ня веру: "3 ліпеня — гістарычная дата вызваленьня рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў". Што яны там, усе з глузду зьехалі? Горадня была вызвалена 16 ліпеня, г.зн., амаль праз два тыдні. І дата гэтая раней адзначалася ў горадзе тымі ж самымі ўладамі. Ці Горадня — не беларускі горад? Ну, "памыліўся" Рыгоравіч, абвясьціўшы дату вызваленьня гораду датай вызваленьня краіны. Але ж ня трэба, як попкам, паўтараць няпраўду. А можа мясцовым уладам напраўду Горадня, як ейнаму сёньняшняму бургамістру, уяўляецца "маленькім Ватыканам" і "маленькай Швайцарыяй"? Маўляў, прычым тут Беларусь?

**Сяргей Максімовіч**

## Прыватныя абвесткі

### *вокны, дзьверы*

**Філёнчатыя дзьверы**, драўляныя вокны са шклапакетам. Вырабляем, ставім, гарантуем якасьць. Т.: 247-98-31

### *вітаньні*

**Віншую Стасю Басаву** з пасьпяховай здачай іспытаў. Алесь

**Гэй ты, Нічка-дабрадзей!** Зьзяй заўсёды для людзей! Простая Янка, Простая Яся

**Павіншуем панну Нічку** мы бяз рыфмы "чаравічкі". Наша Нічка, наша зорка, ясна сьвеціць надвячоркам. Сяброўкі

**Вэранічка** – панацэя Беларускага ліцэю. Няўрымсьлівы баранчык

**Народзіны ў Вэранічкі**: у паветры лётаюць ашалелыя зьнічкі. Яны звар'яцелі і падаюць, каб Нічку парадаваць. СланечнікаваЯ. — абаранка

**Хвіліначку!** Віншую мілую Галіначку! 12.07.2001. Мікола

**Шчырае прывітаньне** Самаму Яскраваму Сонечнаму Праменьчыку, што толькі ёсьць пад небам Беларусі. Шчасьця, радасьці, веры!

**Pryvitańnie** spadaru Strongu ad plamy :)

**Лёшка-Трусік!** Цябе вітаюць "пазалочаныя" сябры-жывёлкі. Мы ня маем уяўленьня пра гумар, мы маем ягонае пачуцьцё. І ня толькі гэтае пачуцьцё да цябе

### *ідэі, кантакты*

**Вярніце Бусьліка** ў "Калыхаку"! Целепузікі

**Сп.Вячорка & Co.** Майце мужнасьць прызнаць сваю памылку. Я сваю прызнаў. Пазьняк і толькі Пазьняк. Сябра Вашай партыі.

**Шаноўнае спадарства!** Галасуйма за Домаша. Жыве Беларусь! Павал Хадзінскі

**"Пастаўлялі ўладароў** самі, безь Мяне, ставілі князёў, але без Майго веданьня, із срэбра свайго і золата свайго зрабілі для сябе ідалаў: адтуль сьмерць" Ос. 8:4

**Усё ня так**, як мае быць, Vit. Мы першапачаткова памыліліся й цяпер расплочваемся, кожны па-свойму. Мара

**Дзеткі заўжды шчырыя**, але ж надта цяжка выказаць сваё каханьне. Можа, дарослыя дапамогуць? Аматары "Калыханкі"

**Бяз чорнай пякельнай працы Яна Чачота** не было б нашага белага Адама Міцкевіча

**Прыхільнікі** Зянона Пазьняка, гуртуймася! Далучайцеся да беларускае справы! (8-029) 602-16-18

**Зянон Пазьняк** — адзіны прэтэндэнт на пасаду прэзыдэнта. І за яго ўсе галасуем. Эліта

**Шукаю аднадумцаў** з паганскім сьветапоглядам. Хвала нашым Багам! 225710 г.Пінск-1, а/с 31

**Прыму ў падарунак** бел-чырвона-белы сьцяг любых памераў. 225710 Пінск-1, а/с 31

**Замаўляйце і чытайце** "Голас Краю" — газэту беларускіх нацыяналістаў. Адрас рэдакцыі: 220037, Менск, а/с 49

**Запрашаем наведаць** сайт беларускіх нацыяналістаў: www.spa-kraj.org

**Змагайся за волю** Бацькаўшчыны! Арганізацыя "Край". Пэйджэр: (017) 249-00-00, аб. 7315. E-mail: spa_kraj@hotmail.com. Паштовы адрас: 220037, Менск, а/с 49

### *кнігі, музыка*

**Набуду літаратуру** па міталёгіі, культуры й побыце славянаў. 225710 Пінск-1, а/с 31

**Прадам CD** "Вольныя танцы. Новая альтэрнатыва", "Музычны часопіс" №1. 225710 Пінск-1, а/с 31

**Набуду збор твораў Караткевіча** ў 8-мі тамах. Калі ласка! Вельмі трэба! Павал Хадзінскі. Т.: 207-45-84

### *няма дзе жыць*

**Буду ўдзячны ўсім,** хто прытуліць у Менску падчас уступных іспытаў. Уладзімер. Т.: (01593) 32-5-03

НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст

Імя і прозьвішча

Адрас, тэлефон



Адзіны!
Віншую з народзінамі! Няхай усе твае мары абавязкова зьдзейсьняцца.
Немаўлятка

## Паштовая скрынка

**Юрасю Л. зь Менску.** Рэцэнзія на польскую "Ўнівэрсальную энцыкляпэдыю філязофіі" магла б зацікавіць, напрыклад, часопіс "Arche" — калі б была аўтарскаю і з драбнікай суб'ектыўнасьці.

**Андрэю М. з Маладэчна.** У Вашым допісе ёсьць трапны лёзунг "Бяз вусаў, затое з мазгамі". З астатнім трэба яшчэ працаваць. Сумбурна.

**Віктару Я. зь Менску.** Вашы аргумэнты поўныя патрыятычных эмоцыяў, але такімі нашых замежных сяброў не пераканаеш. Трэба ўмець ня толькі сэрцам адчуць, але й розумам даказаць, чаму наша "нацыя і радзіма будуць жыць у вякох".

**Мары з Лунінца.** У Вас памылковае разуменьне паняцьця "нацыяналізм". Гітлер і баркашоўцы — гэта фашысты, чачэнскія баевікі — байцы войска незалежнае дзяржавы, што абараняецца ад агрэсіі. А "нацыяналізм" у традыцыйнай сацыялёгіі — гэта ідэалёгія нацыятворчасьці і будаўніцтва нацыянальнае дзяржавы, неабходны элемэнт пабудовы дэмакратычнага грамадзтва і грамадзянскай супольнасьці. Праз "стадыю нацыяналізму" прайшлі ўсе цэнтральнаэўрапейскія народы.

**Алесю П. зь Менску.** Прыкра, што Вы, разважаючы пра такія простыя, сьветлыя і ясныя кожнаму чалавеку рэчы, як незалежнасьць, нацыяналізм, культура і дух народу, не абыходзіцеся без газэтных штампаў расейскага каляніялізму, як "нацыянальна арыентаваны чалавек", "сапраўдная, а не віртуальная незалежнасьць". "Просты чалавек не павінен дасканала разьбірацца ў палітыцы", — пішаце Вы, і, здаецца, пудлуеце. У Літве, Латвіі, Чэхіі ды іншых краёх вызваленне прыходзіла **тады, калі рабілася справай тысячаў будзіцеляў. Думка пра тое**, што "Лукашэнка — вынік нашай культурнай, а не палітычнай неразьвітасьці" заслугоўвае, аднак, шырэйшага разгляду.



**НАША НІВА**
**незалежная газэта**
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906–1914), Янка Купала (1914–1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991–2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| вярстальніца | Заміра Болцікава |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| адказны сакратар | Андрэй Кузьнечык |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| заснавальнік і выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня УП выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 5125.
Нумар падпісаны ў друк 8.07.2001.
Замова № 3788.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а